Літаратурная Беларусь

Выпуск № 8 (192) (жнівень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org
novychas.online
facebook.com/litaraturnaja.belarus


Змест




**ЮБІЛЕЙ:** «Янка Брыль: паэт у прозе» – згадкі Міколы АЎРАМЧЫКА пра сябра ........ с. 2
**ЮБІЛЕЙ:** 105-годдзе Пімена ПАНЧАНКІ ........ с. 3
**ПЕРАКЛАД:** апавяданне «Большасць» Дзмітрыя БЫКАВА ........ с. 4
**ПАЭЗІЯ:** вершаваныя нізкі Анатоля і Васіля ДЭБІШАЎ ........ с. 5
**ЧЫТАЛЬНЯ:** аповед «Златка» Людмілы АНДЗІЛЕЎКА ........ с. 6, 7
**ПАЭЗІЯ:** нізка вершаў «Камяню сёння стала няўлежна» Марыі БАРАВІК ........ с. 8
**ПРОЗА:** мроя «Чырвоныя гладыятары» Лявона ВАЛАСЮКА ........ с. 9
**ФОРУМ:** эсэ «Горад маланак» Вечаслава КАЗАКЕВІЧА і «Евангельскія матывы» Паўла КАСПЯРОВІЧА ........ с. 10
**ДЗЕЦЯМ:** паэтычныя «Колеры вясёлкі» Ганны ЯНКУТА ........ с. 11
**СВЕТ:** навіны і цікавосткі літаратурнага замежжа ........ с. 12


# Пад сонцам найвышэйшай пробы

## 105 гадоў з дня нараджэння Янкі БРЫЛЯ



Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

Даўно не пакідае мяне пытанне, можа быць, нават загадка трывалай звязанасці Янкі Брыля і Міхася Стральцова. У адным з тэкстаў Валянціна Акудовіча ёсць прыпамінак пра тое, як Стральцоў намаўляў маладога крытыка напісаць эсэ пра Янку Брыля.

«Чаму менавіта пра яго? Хіба якое свята ці юбілей?». «Янка Брыль — гэта заўсёды свята», — быў адказ.

Тут жа і ўспамін Анатоля Кудраўца, як разбіраўся пасля смерці загадчыка аддзела крытыкі часопіса «Нёман» Міхася Стральцова працоўны пісьмовы стол, і ў шуфлядзе знайшлося некалькі выразак, лістоў, рукапіс вершаў і — вялікі фотаздымак Івана Антонавіча Брыля, беражліва схаваны ў кардонную тэчку.

Шмат што сыходзіцца ў гэтай звязанасці двух сёлетніх юбіляраў, якія абодва — заўсёднае нашае свята. Любоў да слова, а не да тысячы знакаў. Прыманне быцця, хоць і ў глухой, зацятай з ім спрэчцы. Але, мабыць, найперш — штохвілiннае чаканне той успышкі, дзеля якой усё «стала быць». Бо як успышка, эпіфанія, нараджае тэкст, так яна мусіць і нарадзіць чытача, «паяднаць пачатак і канец».

Досвед Янкі Брыля, набрыняны талстоўскай традыцыяй, сведчыць, што здзяйсненне стылістычнай рэвалюцыі магчымае і ў самы неспрыяльны час. Рэч не ў абстрактным «лірызме прозы», а менавіта — у сінтаксісе і рытме, на якіх у літаратуры трымаецца многае: «Прыгожая была гэта шэрая, вельмі мыльцёвая, натуральная прастата, гэтая яшчэ ўсё нерастрачаная сіла, якую і не высушылі, і не прыглушылі дзевяць дзясяткаў больш катаржных, чым радасных, гадоў. Прыгожы быў позірк светлаблакітных вачэй пад густымі, сівымі брывамі, вачэй адкрытых і чыстых, як само бясхмарнае неба, паўторанае ў крынічным люстры бяскрайняга возера.

Прыгожы быў, урэшце, увесь гэты звычайны, будзённы малюнак: вялікая чорная лодка на вадзяной пустыні, у лодцы — шэры дзед і светленькая ўнучка, а за кармой, на буксіры, — доўгае сасновае бервяно і яшчэ даўжэйшы трохкутнік растрывожанай вады».

Шасцідзясятнікі «філалагічнага пакалення», якія, паводле Міхася Стральцова, зачытваліся «Надпісам на зрубе», дзякуючы Янку Брылю вельмі добра сталі разумець змену пісьменніцкай задачы. Бо цяпер важна было не нашрайбаць вытворчы раман ці франтавую эпапею, а — добра, ужываючы найлепшую еўрапейскую оптыку, выпісаць адзін, другі канкрэтны абзац, скласці з іх трывожнарадаснае, цэльнае апавяданне. Так, як гэта робіць Янка Брыль, кідаючы свой позірк, напрыклад, і на зборышча вясковых катоў, якія чакаюць на беразе прышвартоўкі рыбацкай брыгады: «Каты — залежна ад узросту — то нецярпліва пахаджалі, задраўшы хвасты, церліся каля гаспадарскіх ног і па-блазенску дакучліва вякалі, то стрымана, салідна аблізваліся, жмурачы лянівыя вочы.

Толькі адзін, найбольш бывалы і вопытны тыграў сваяк, вядомы на ўсю вёску валацуга і злодзей Цярэшка, сядзеў воддаль, на зялёным прыгорку, цікуючы і на ваду, і на сушу з аднолькавым скепсісам на вусатым мурле».



Фота НН

Падобная дэталізацыя, дзякуючы моцнай оптыцы, не магла не прыводзіць да ўскладнення сінтаксісу, але яна і падштурхоўвала аўтара да разумення самакаштоўнасці эпізода, аднаго назірання, у якім знойдзеш і свой сюжэт, архітэктоніку з амаль невычэрпнай крыніцай аздобаў, і магчымасць ствараць наўзамен дынамічнай, вельмі часта паспешлівай прозы — вітраж разасобленых эцюдаў, па-майстэрску складзеных у адно кампазіцыйнае цэлае: кнігу. І гэта можа стаць кнігай пра нястрачаны час і пра зафіксаванага на ягоным тле асобнага чалавека. Які выслухаў сотні чужых біяграфій і зрабіў іх часткай сваёй. Які захаваў на крышталіках сотні краявідаў, запомніў водар ручая, акіяна, лесу і горнай вяршыні.

Такой кнігай мне бачыцца «Жменя сонечных промняў» — маленечкі прамакутнік шэсцьдзясят пятага года ў каларытным афармленні Барыса Заборава. Гэта шасцічасткавая ўверцюра, распачатая матывамі чалавечай унікальнасці, рознасці і роўнасці перад сыходам, праведзеная праз аповеды пра кніжнасць і пачутыя трапныя выслоўі, праз медытацыі над з'явамі прыроды і карнавальныя арабескі жартаў — да запісаў пра дзяцей, у чыіх вачах бясконца адлюстроўваецца будучыня.

У прадмове Янка Брыль піша, што збіраў сваю кнігу дваццаць пяць гадоў, яшчэ з даваеннага, заходнебеларускага часу. Гэты непрыдуманы свет меў такую «памяць жанру», што засланяліся суцэльна ўсе магчымыя роды і віды літаратуры.

З галасоў, укладзеных у кнігу «Я з вогненнай вёскі…», і з вітражоў мініяцюр вырас і наш паліфанічны беларускі Нобель — з такой жа ўвагай да дэталі, адчуваннем сюжэтнасці і вусцішнасці быцця. Сімвалічна, што менавіта Янка Брыль напісаў прадмову да першай кнігі Святланы Алексіевіч на беларускай мове.

Магчыма, толькі калі збярэцца ў адно ўсё напісанае Янкам Брылём, нарэшце прыйдзе ўсведамленне, якога маштабу пісьменніка мы маем. Пакуль жа аматары-бібліяфілы знаходзяць ціхую радасць у адшукванні невялікіх брылёўскіх зборнічкаў, у кожным з якіх абавязкова знойдзеш красу і спажытак для душы.

«Нельга пісаць інтэлектам, трэба быць унутры пісьма, разумееце?» — пытаўся аднойчы Рэй Брэдберы ў журналіста.

Я думаю, Іван Антонавіч Брыль зразумеў бы, пра якое пісьмо і якую друкарку ідзе гаворка. Бо і сам пражыў такое жыццё — пад сонцам найвышэйшай пробы.

# Янка Брыль: паэт у прозе



Мікола АЎРАМЧЫК

У беларускай літаратуры Янка Брыль займае месца, адпаведнае яго знешняй мажной постаці.

Сярод пакалення пісьменнікаў, якія адразу ж пасля вайны ўваходзілі ў беларускую літаратуру, ён не быў пачаткоўцам. Невыпадкова ўжо да другой кнігі яго апавяданняў «Нёманскія казакі» прадмову напісаў тагачасны патрыярх беларускай літаратуры Кандрат Крапіва.

Што ні возьмеш з твораў Янкі Брыля: ці напісаную для маленькіх дзяцей «Ліпку і клёнік», ці «Лазунка» — для падлеткаў, ці яго раманы і аповесці, — на іх ляжыць адбітак рукі сталага майстра з паэтычнай натураю.

Сам аўтар крытычна ставіўся да сваёй аповесці «У Забалоцці днее», якая ў свой час была адзначана Дзяржаўнай прэміяй Савецкага Саюза. Але для мяне гэты твор застаўся блізкім і дарагім менавіта паводле сваёй паэтычнай узнёсласці. Нават неспрактыкаванае вока наглядна ўбачыць паэзію ў Брылёвых аповесцях, апавяданнях і, асабліва, у «Жмені сонечных промняў». Як вялізнае трумо нават у пахмурнае надвор'е адлюстроўвае на сцяну або столь святло, што падае з аконнага праёму, гэтак творы Янкі Брыля выпраменьваюць на чытача паэтычныя іскрынкі і сонечныя зайчыкі.

Асабіста я адчуваю паэзію нават у самой стылістыцы яго мовы. Янка Брыль — выдатны стыліст. Многія сказы з яго навелаў і лірычных мініяцюраў я люблю перачытваць і смакаваць, як удалыя паэтычныя радкі з добрых вершаў. Прыгадваю, з якім хваляваннем я калісьці чытаў яго аповесці «Расчараванне», «На Быстранцы», «Золак, убачаны здалёк» і «Ніжнія Байдуны». Апошняя выклікала ў мяне не толькі захапленне і добрую сяброўскую зайздрасць, але і прыемнае здзіўленне. Бо ў аснове яе ляжыць усяго толькі якая-небудзь пятая частка жыццёвых падзеяў, пра якія аўтар расказваў мне на працягу многіх гадоў нашага сяброўства.

Дык колькі ж яшчэ цудоўных твораў магло з'явіцца з-пад ягонага пяра...

Алесь Адамовіч, Янка Брыль і Уладзімір Калеснік разам напісалі ўнікальную дакументальную кнігу «Я з вогненнай вёскі», падобнай да якой, напэўна, няма ў сусветнай літаратуры. У ёй адлюстраваны не толькі жахлівыя дакументы фашысцкага вандалізму на беларускай зямлі, але і запісаны галасы ды сфатаграфаваныя аблічча многіх ацалелых ахвяраў гітлераўскіх карнікаў. Прыяцелі аўтараў ведалі, у сувязі з якой «мышынай» валтузнёю некаторых усесаюзных чыноўнікаў ад літаратуры гэтая кніга не атрымала ў свой час найвышэйшай літаратурнай узнагароды былога Савецкага Саюза.

...Некаторыя мае калегі прызнаваліся мне, што заўсёды бянтэжацца перад унушальнай постаццю Янкі Брыля не толькі як пісьменніка, але і як чалавека. Прызнацца, і ў мяне таксама было гэткае ж адчуванне ў часе першых сустрэчаў з Янкам. Хутчэй за ўсё гэта ад таго, што пры ўнушальнай мажной постаці твар Янкі таксама выглядаў для незнаёмага занадта строгім, калі не суровым. Але Янка быццам добра ведаў і адчуваў, якое ўражанне на незнаёмага робіць яго постаць: неяк незаўважна ўмеў развеяць разгубленасць новых знаёмых. Мяне дык ён адразу ж літаральна абяззброіў сваёй шчырасцю і ўвагаю. Помню, як пасля нашага знаёмства ён прывёз мне з Вільні падарунак: тры шыкоўныя, вытканыя ў народным стылі гальштукі. Адзін з блакітным, як васількі, арнаментам, другі — зялёны з чорным, а трэці — з залацістымі каласамі на ружовым фоне. А потым яшчэ прывёз з Масквы вушанку з трусінага футра.

У далейшым мяне з Янкам болей зблізіла тое, што мы разам пачалі працаваць у створанай тады «Маладосці». Ён — як намеснік галоўнага рэдактара і загадчык аддзела літаратуры часопіса, а я — літсупрацоўнік, які вёў паэзію. Напэўна, як у кожнага таленавітага чалавека, у яго я ніколі не адчуваў сябе падначаленым. Фактычна ў маім жыцці менавіта Янка быў першым празаікам, які не тэарэтычна, а на практыцы прывучаў літсупрацоўніка авалодваць празаічным словам, якое чамусьці заўсёды выклікала ў мяне боязь. Хоць я і пачынаў у раннім юнацтве пісаць апавяданні, але тыя патугі былі яшчэ не зусім усвядомленай працаю... Янка закасваў рукавы, садзіў мяне побач з сабою, браў у рукі самапіску і паказваў, як трэба працаваць над сказам, адкідаючы лішнюю непатрэбшчыну, выпраўляючы недакладныя словы і няўдалыя выразы. Рабіў папраўкі Янка як майстра, а я толькі нясмела дапамагаў яму, як чаляднік. Але гэта надавала мне большай упэўненасці ў авалоданні мастацкім словам у прозе.

Аднойчы, у першыя пасляваенныя гады, Янка запрасіў Антона Бялевіча, Уладзіміра Карпава і мяне паехаць на сваю «малую» радзіму. Мы тады наведалі яго родную Загару, гасцявалі ў сем'ях ягоных братоў Мікалая і Міхася, выступалі перад вучнямі школы і жыхарамі мястэчка Мір. Янкавы партызанскія сябры, кіраўнікі мясцовага спіртзавода, запрасілі нас азнаёміцца з працаю іхняга прадпрыемства. Ужо два тыдні як завод стаяў на рамонце. Я здолеў прайсці ўсяго толькі два цэхі, вокны якіх былі насцеж расчынены. Але, надыхаўшыся спецыфічна настоеным паветрам, адчуў сябе вельмі кепска. Вымушаны быў дачасна закончыць экскурсію, выйшаў і сеў на беразе сажалкі. А мае калегі абышлі ўсе астатнія цэхі і, адведаўшы канчатковай прадукцыі прадпрыемства, дапамаглі мне ачомацца, каб пайсці на чарговае выступленне. Пасля тае паездкі Антон Бялевіч не раз расказваў у Мінску калегам пра тое, як я асарамаціўся перад Янкавымі партызанскімі сябрамі...

Разам з Янкам я нямала паездзіў па былым Савецкім Саюзе. Дзе мы толькі ні бывалі?! Самалётам лёталі на Урал, у Сібір і ва Узбекістан. Праз лесастэп, тайгу, тундру і вечную мерзлату па Енісеі ад Краснаярска да Запаляр'я праплылі на цеплаходзе «Рубінштэйн», капітан якога расказваў, колькі ён перавазіў гэтым водным шляхам сталінскіх зняволеных — і нікога не прывозіў назад.

У час нашых супольных паездак я часта быў сведкам таго, як Янка сваімі паводзінамі вельмі хутка выклікаў да сябе сімпатыю мясцовых кіраўнікоў або незнаёмых яму дзеячоў культуры і пісьменнікаў братніх рэспублік. Прыгадваю, як мы невялікай групай беларускай інтэлігенцыі некалькі дзён ездзілі па Узбекістане і як у выніку гэтай паездкі да яго па-сыноўняму, з заміласваннем пачалі ставіцца Народны паэт гэтай рэспублікі Аскад Мухтар, Народны артыст Беларусі спявак Леанід Бражнік і Народны артыст нашай рэспублікі саліст балету Валеры Міронаў. Або як у час нашага плавання па Енісеі гэтак, як і мы, беларусы, яго пачціва пачалі называць татам расійскія паэты Ірына Валабуева і галоўны рэдактар часопіса «Наш современник» Сяргей Вікулаў.

Нязмушаныя, вельмі натуральныя паводзіны, умельства ненавязліва весці рэй, прадстаўляць аўдыторыі сваіх калегаў, расказваць штосьці вясёлае, небанальнае вылучалі Янку сярод іншых і выклікалі да яго асаблівую сімпатыю. У гэтым сэнсе яны з Максімам Танкам у любой дэлегацыі выглядалі сапраўднымі еўрапейцамі. Прычым, у адрозненне ад Максіма, які быў абаяльным і незаменным расказчыкам, але і па-еўрапейску ўмеў ігнараваць чарку і ўхіляцца ад абвязчэння тостаў, Янка па-славянску прыгожа рабіў і тое і другое дый у дадатак у застоллі яшчэ ўмеў хораша заспяваць. А спяваў Янка вельмі хораша. У яго быў прыгожы голас. Я не помню ніводнага выпадку, калі б ён адмовіўся заспяваць што-небудзь па маёй просьбе. Асабліва ён



Малюнак blogspot.com

Янка Брыль

любіў на польскай мове «Галубку», польскія салдацкія, расійскія, украінскія і беларускія народныя песні. Дома ў яго быў спецыяльны столік-шафка, у сярэдзіне з прайгравальнікам і каробкамі з кружэлкамі...

Часцей за ўсё мы з Янкам вандравалі па роднай Беларусі. Мяне то аднаго, то з Нілам Гілевічам, то з Сяргеем Грахоўскім Янка пастаянна браў з сабою ў Вілейскі і Лідскі раёны, ад якіх выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі некалькіх скліканняў. У тых раёнах мы выступалі перад вучнямі і настаўнікамі. Асабліва хвалюючыя сустрэчы для нас умеў наладжваць першы сакратар Лідскага райкама партыі Міхаіл Мінкевіч, які пазней быў міністрам адукацыі. Ён вазіў нас у самыя глыбінныя школы свайго раёна, знаёміў з цікавымі настаўніцкімі калектывамі.

Аднойчы, калі ён сам павінен быў праводзіць у Лідзе нейкую важную нараду і даручыў загадчыку ідэалагічнага аддзела суправаджаць нас у паездцы па раёне, адбыўся смешнаваты выпадак. У той дзень мы прыехалі з Мінска. Для нас былі заказаныя месцы ў гасцініцы, і мы, не заходзячы ў яе, паехалі ў раённую глыбінку. Выступалі ў некалькіх школах. Вярнуліся толькі апоўначы. Дзяжурная ў гасцініцы палічыла, што мы яшчэ не прыехалі з Мінска, і пасяліла ў прызначаныя для нас нумары вясковых жыхароў, якія не ўправіліся са сваімі справамі і вымушаны былі заначаваць у раённым цэнтры. Збянтэжаная, яна хацела разбудзіць іх сярод ночы. Але Янка ўпрасіў жанчыну не рабіць гэтага. Маўляў, людзі здарожыліся, спяць моцным сном. Не трэба іх раскатурхваць...

Загадчык ідэалагічнага аддзела ўгаварыў нас пайсці начаваць да яго на кватэру. А раніцою, як прыкладны служака, вядома, далажыў начальству пра прыкрую прамашку гасцінічнай абслугі. Калі мы ўвайшлі ў кабінет да Міхаіла Гаўрылавіча, ён першым чынам пацікавіўся, як мы адпачылі? Янка адказаў, што нармальна ўладкаваліся і як след паспалі. Міхаіл Гаўрылавіч недаверліва паглядзеў на яго, незадаволена ўхмыльнуўся, але нічога не сказаў. А я, глянуўшы на крыху сканфужанага Янку, сам сабе надумаў тады, што іншы слуга народу зрабіў бы строгую вымову дзяжурнай гасцініцы за яе недагляд.

Сярод маіх сяброў Янка вылучаўся прастатой і даступнасцю. Яму не ўласцівы былі адасобленасць і замкнёнасць, якія характэрныя для большасці талентаў. Ён разумеў гумар і ўмеў дасціпна жартаваць.

...Аднойчы Янка напісаў мне: давай хоць калі-небудзь пасварымся з табою. Мне зрабілася няёмка. Я прыгадаў, як Янка некалі аднаму з першых даваў мне прачытаць рукапіс рамана «Птушкі і гнёзды». Напэўна, хацеў, каб не толькі як сябра, але і як чалавек, які ведае Нямеччыну знутры, выказаў яму сваё ўражанне аб гэтым творы. Прызнацца, тады ягоны раман выклікаў у мяне нямала заўвагаў і прэтэнзіяў, якія я і выказаў аўтару. Памятаю, што яны вельмі збянтэжылі Янку.

Значна пазней я двойчы перачытваў ягоны раман «Птушкі і гнёзды», і яны выклікалі ў мяне захапленне. Не ведаю, ці таму, што Янка кампазіцыйна крыху перапрацаваў раман, ці таму, што прайшло шмат часу і густ мой болей абвастрыўся, дый сам я многае зразумеў па-іншаму. Як бы там ні было, але Янка ніколі не прыгадваў мне пра тую нашую даўнюю размову...

Апошнія дзесяцігоддзі амаль кожны тыдзень мы тэлефанавалі адзін аднаму, абменьваліся думкамі пра жыццё-быццё і пра літаратурныя навіны, бо значна радзей наведвалі літаратурныя вечары і рэдакцыі газет ды часопісаў. Жартаўліваму напрамку нашых працяглых размоў заўсёды задаваў тон Янка. Часцей за ўсё ён з гумарам называў мяне на нямецкі лад: калі звяртаўся пяшчотна «Ніко», я лагодна зваў яго «Ёган», а калі называў мяне «Нікалаусам», я таксама сур'ёзна зваў яго «Іяганам». Праўда, калі Янка нярэдка заканчваў нашую тэлефонную размову жартаўліва-пяшчотным: «Вот так, дарагі мой Колечка», у мяне не паварочваўся язык, каб назваць гэтага блізкага і дарагога чалавека Ванечкам...

***105 гадоў назад 23 жніўня ў Рэвелі (цяперашні Талін) на той час Эстляндскай губерні нарадзіўся будучы Народны паэт Беларусі Пімен Емяльянавіч ПАНЧАНКА, лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій, аўтар непаўторных паэтычных кніг, смелы рэдактар, мужны і шчыры грамадзянін.***

***Бацькі ў пошуках заробку выехалі ў Прыбалтыку. Першая сусветная вайна... Маці-салдатка з двума дзецьмі ў чужым горадзе... І ў 1920 годзе — у час новых войнаў і рэвалюцыйных пераваротаў — яна падалася да сваёй маці ў беларускі Бягомль. Праз 13 гадоў — у Бабруйск.***

***Пімен закончыў настаўніцкія курсы, Мінскі настаўніцкі інстытут, працаваў. Затым — Другая сусветная вайна, лёс салдата-франтавіка.***

***Пасля дэмабілізацыі ў 1946-м — тыповы лёс творчага чалавека (праца ў рэдакцыях, у праўленні Саюза пісьменнікаў), але не тыповы лёс творцы (смелага ў патрыятызме і ўзнёслага ў лірыцы). І не заўсёды сонечны і шчаслівы... Сотні кніг, тысячы перакладаў, — а ўрэшце горкае прызнанне паэта: «Мы пішам, а нас не чытаюць».***

***Памёр Пімен Панчанка 2 красавіка 1995 года ў Мінску. Пахаваны на Усходніх могілках.***

***У яго юбілейную гадавіну «ЛБ» публікуе прачулае эсэ Рыгора Барадуліна пра паэта і свайго старэйшага сябра, напісанае роўна 30 гадоў таму назад.***


Фота bas-net.by

Пімен Панчанка

# Будуць!

Рыгор БАРАДУЛІН

Купалаўскі ліпень, панчанкаўскі жнівень. Адзін за адным, адзін з адным. Пімен Панчанка ішоў следам за вялікім Янкам Купалам. Як спадчыннік, як пераемнік традыцый бацькі нацыі беларускае. Лёс быў літасцівы да Пімена Панчанкі, лёс велікадушна дазволіў яму чуць, бачыць Янку Купалу, адчуць увагу пачынальніка новае беларускае літаратуры. Дазволіўшы сабе пэўную высакапышнасць фразы, можна сказаць, што паэт Пімен Панчанка нарадзіўся пад сузор'ем Янкі Купалы, а гэта значыць, што вырачаны на вечную любоў да беларушчыны, на любоў пакутную, самаахвярную.

Пімен Панчанка — народны паэт любоўю і пашанай народнай, верай народнай у свайго паэта як заступніка, як няўрымсніка, як непахісніка. Народны і сваёй самаадданасцю народу, рашучасцю сказаць і слова замілавання, і слова горкае праўды.

І натуральна зазірнуць у «Беларускі народны каляндар», складзены нястомным працаўніком на ніве адраджэння беларускага, крывіцкага духу Уладзімірам Васілевічам. Што ж кажа народны каляндар пра дзень нараджэння народнага паэта? Чытаем: «Гаспадарчыя работы тым часам змянілі адна адну, і селянін ужо выпраўляўся малоць новае збожжа: «На Лаўрына спяшай да млына». Выслоўе лёгка, ужыўшы асацыятыўную рыфму, пачуць і так: «На Пімена спяшай да млына». Бо жнівень — месяц ураджаю. І творчага.

Сам жа паэт тлумачыў паходжанне свайго імя ў вершы. Пімен па-грэцку — пастух. І звычайны пастух, і пастыр духоўны. Бо сапраўдны паэт і ёсць пастыр душаў людскіх, і пастух родных слоў. Паства вялікая!




І пасвіць Пімен Панчанка беларускае слова яшчэ з перадваенных гадоў. І статак у яго капрызлівы, і сам пастух характар мае круты. Панчанкаўскі статак увесь час наравіў залезці ў шкоду, зрабіць патраву на агароджаных калючымі дратамі палетках прасаветызаванай ідэалогіі.

Народны паэт Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій Беларусі і былога Саюза, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі не аднаго склікання, сталы аўтар хрэстаматый і анталогій. Усё гэта Пімен Панчанка.

На першы позірк, што называецца, пясняр культу і застою, аблашчаны партыяй і ўрадам. Але толькі на першы позірк. Не памылюся, калі скажу, што сумнай славы Галоўліт са страхам чакаў кожнае новае нізкі паэта, кожнае новае кнігі. Лес алоўкаў і вёдры пасты для шарыкавых ручак звялі чэкісцка-пільныя галоўлітчыкі, забараняючы, правячы, крэслячы, рэжучы па жывым целе паэзіі. Не-як аднойчы ў самы паўдзён брэжнеўшчыны Пімен Панчанка амаль у адчаі казаў, што ў яго назбіраўся важкі том вершаў, забароненых савецкай цэнзурай. Гэта пішу не ў апраўданне сумлення паэзіі Пімена Панчанкі, яно крынічна-чыстае, проста для даведкі маладзейшай змене, якая ўсё і ўсіх адмаўляе.

Радок любімага народам паэта прабіваўся зялёным трыпутнікам з-пад плітаў сталінскага сацрэалізму, з-пад плітаў зашоранай цэнзуры, з-пад свінцовых чаравікаў ідэолагаў ад райкома да ЦК. І заставаўся панчанкаўскім, а гэта значыць бескампрамісным і задзірыстым, непаўторным і няскораным, наватарскім і класічным.

Сапраўднасць паэта і таленту ягонага пазнаецца на крутых паваротах часу. Варта толькі нагадаць пра некаторыя павароты нашае гісторыі, селекцыраванай балынавіцкім рэжымам, каб пераканацца яшчэ і яшчэ ў сапраўднай непаўторнасці паэзіі Пімена Панчанкі.

Перадвайна. Аддаючы вымушаную даніну часу, паэт больш увагі ўдзяляе вечнаму ў жыцці і зямному, блізкаму да нябёсаў, бачачы, як шчупак у затоне ломіць аер, як садоўнік беліць ногі вішням, як вогнішчамі палаюць восеньскія сады. І ва ўсім — адчуванне трывогі, навалы, пажару.

Вайна. Самыя шчырыя, самыя праўдзівыя, самыя, кажучы па-вайсковаму, выбуховыя і разрыўныя ў нашай паэзіі вершы — вершы Пімена Панчанкі. І як біла выкляватая крытыка за адзін толькі радок, якім пачынаўся верш: «У мяне не забілі нікога — ні маці, ні жонкі, ні брата». Патрабавалася простая логіка: у мяне забілі — я заб'ю. Па Старым запавеце: вока за вока... Зусім не па-савецку выглядаў герой з аднайменнага верша. Верш знаёмы ўсім, а ўтрымацца цяжка, каб не працытаваць хоць кавалачак:

*А ён свае косці з іржавых*
*калючак*
*Сваімі рукамі без стогну аддзёр,*
*Зваліўся на травы, і стала*
*балюча*
*І травам, і росам, і ветрам*
*гаючым,*
*Што прыляцелі з валдайскіх азёр.*

Можна пісаць цэлае даследаванне толькі пра дзве літары: р і л. У іх — ржавасць, рыданне, раны, роспач і ласка, літасць, лютасць. А пра непераможнасць жыцця, пра жывучасць побыту, пра зняваrу смерці ў «Артабстрэле»:

*Раптам попел і цэгла*
*варухнуліся, чхнулі, усталі.*
*Дзіўным голасам чалавечым*
*у мяне запыталі:*
*«Дай, браток, закурыць.*
*Ёсць тытунь — будзем жыць...»*


Фота з асабістага архіва

Пімен Панчанка на фронце

І спаконна беларускае веданне сваёй геаграфіі і гісторыі. Невынішчальна геннае пачуццё ўсяго беларускага выказаў паэт і ў 1942 годзе ў вершы, які скідвалі самалёты лістоўкаю на акупаваную Беларусь, «Байцу, які першы ступіў на беларускую зямлю»:

*Ідзі, баец, ідзі, наш сокал ясны,*
*Цябе чакаюць Мінск і Беласток.*

Менавіта Беласток. Падкрэсліў: Беласток — беларускі горад. Як бы адчуў, што пасля вайны «бацька ўсіх народаў» будзе памінаць сваіх дзядоў чужымі клёцкамі, адкроіўшы ад Беларусі Беласточчыну, нават Белавежу падзеліць.

У год Перамогі ўспомніць Пімен Панчанка і старажытную сталіцу нашую ў далёкім Іране:

*І гэты пах тубыльны*
*Злуе байца.*
*Нясе*
*Яго ўспамін пад Вільню,*
*Дзе травы у расе,*
*Дзе хвоі над крыніцай*
*Лагодна так гудуць,*
*Дзе з малаком чарніцы*
*Увечары ядуць.*

У 41-м роспачным паэт верыў:

*Пакуль сонца не згасне,*
*Пакуль свецяцца зоры,*
*Беларусь не загіне, будзе жыць*
*Беларусь!*

Гэта крыху заканспіраваны купалаўска-адраджэнскі кліч: «Жыве Беларусь!». Які, дзякуй Богу, зноў стаў гучаць вольна пад бел-чырвона-белым сцягам нашым.

Пасляваўна. У агульным, у асноўным хвалаўзнёсістым гуле паэзіі культаўскага складу вершы Пімена Панчанкі вылучаліся сваёй нечаканасцю, хітрынкай, горкай усмешкай. Вядома, і кесару кесарава. Ратаваўся паэт у ваеннай тэматыцы. Гэтак і пісаў:

*Калі мая песня каго й*
*хвалявала,*
*То тая, апранутая ў шынель...*
*Растрачана дзён незваротных*
*нямала*
*На дробязь, на глупства,*
*на тосты, на мель.*

У хрушчоўскую адлігу паэт піша самыя смелыя па тым часе вершы. Не лішне нагадаць хоць бы «Прыстасаванцы», «На планеце ў нас усё бывае...». Напярэдадні свайго саракагоддзя Пімен Панчанка канстатаваў:

*І гразь мясілі,*
*І ў бой хадзілі,*
*І ўладнай сіле*
*Радком кадзілі.*

У застойна-застольныя гады паэт узняў свой голас у абарону прыроды («Паэма майго лесу»), у абарону беларускае мовы.

*Пакіньце мне мову маю —*
*Пакіньце жыццё мне.*

З нядаўніх часін вядомы верш заканчваецца гэтымі радкамі, а не пад прымусам праўленымі.

У 1962 годзе жахлівым сном прыйшло да паэта, а паэт пра гэта папярэдзіў людзей, — прадчуванне чарнобыльскае катастрофы:

*Смачна спіцца на пахкім сене...*
*Толькі скуль гэты жудасны гул?*
*Вадароднае землетрасенне!..*
*Хаты змецены. Курчацца коні.*
*Я бягу па абгрызках дарог.*
*Вецер хмары барвовыя гоніць.*

Да слова. Незабыўнаму Уладзіміру Караткевічу ў рэанімацыі прытрызнілася атамная вайна. Памятаю, як расказваў незадоўга да смерці.

У гады так званай перабудовы Пімен Панчанка першы загаварыў да болю сумлення, шчыра. І яго слухалі зноў удзячна і даверліва.

На ўсіх паваротах часу голас паэта, як гэта і належыць спрадвеку, гучаў і гучыць прарочa. Апошнім часам болей суму, болей болю. А вера жыве:

*Зязюля пачала*
*Адлік жыцця нам строгі,*
*А ў лесе зноў пайшлі баравікі,*
*Як спіны разагнём,*
*Паразумнеем трохі,*
*І злыдні не саб'юць*
*З народнае дарогі,*
*То нашай Беларусі*
*Жыць і жыць вякі!*

Паўвека назад, у 1942 франтавым годзе, вера глядзела на свет закаханымі вачыма:

*Будуць вечна сады расцвітаць,*
*Белагрудыя ластаўкі лётаць*
*І дзявочыя ногі таптаць*
*Залатую лотаць.*

Будуць!

# Большасць



Дзмітрый БЫКАЎ

Муж Веры Фамінай прыйшоў з вайны мёртвы. Ёй яшчэ пашанцавала: іншыя без рукі, без нагі. Горад быў маленькі, бедны, усё навідавоку. Вера чула выццё ў суседніх дамах, бачыла перапалоханых дзяцей, зарованых старых, цуралася інвалідаў, якія глядзелі на суседзяў з нянавісцю, быццам гэта суседзі іх пакалечылі. А яе муж прыйшоў адразу пасля перамогі, ёй нават здавалася часам, што незадоўга да. Але гэта ўжо потым, калі ўсё ў памяці пачало змешвацца.

Пра такія рэчы — накшталт мёртвага жаніха або нябожчыка, які прыйшоў з вайны — часам казалі як аб чымсьці нярэдкім, Вера чула пра іх з дзяцінства, са страшных дзіцячых аповедаў аб начных гасцях, але неяк усё міма. Яна не заўважыла ні паху, нічога, і, вядома, ён не піў чужой крыві. Усё гэта бабскія казкі, а таму дзіўнае яна западозрыла, толькі калі на свяце з нагоды яго вяртання ён пайшоў танчыць і заскакаў так, што спачатку ўсе спыніліся, а потым і гарманіст перастаў граць з перапуду.

Так Сцяпан і танчыў, адзін, гледзячы проста перад сабой, робячы такія рухі, якіх зроду не было ні ў адным танцы: то некалькі разоў запар згінаўся на адзін бок, кідаў кулак то ўверх, то ўніз, то раптам страшна тупаў па зямлі, і зноў адной нагой мацней, чым другой; ва ўсім адчуваўся перакос. Пакруціўся на месцы, закінуў галаву, пачаў раптам стукаць сябе крыж-накрыж па плячах, наогул твaрыў рытуал незразумелай веры, потым пакланіўся і заціх.

Ніхто не ведаў, дзе яго такому навучылі. Піў ён мала, затое еў прагна.

Начныя госці былі зусім іншыя. Тыя прыходзілі, тэлефанавалі, стукалі, часам выбівалі дзверы, потым пературэсвалі ўсё і зводзілі гаспадара, гаспадыню, а часам і дзяцей. Начныя госці былі жывыя, толькі дзіўна апранутыя, але дзейнічалі па законе і не ўтрымлівалі ў сабе нічога тагасветнага, так што іх сапраўды трэба было баяцца. Пра мёртвых казалі мала, бо дзейнічала правіла: ці добра, ці нічога. Таму Вера ў прынцыпе была ў курсе, але не чакала, што вось так пашанцуе менавіта ёй. А якія ў яе былі асаблівыя заслугі? Хіба што нейкая паўночная прыгажосць, як гэта звалася афіцыйна, і яшчэ ў яе выдатна атрымліваліся дранікі, але ў каго ж не атрымліваюцца дранікі? У горадзе іх яшчэ называлі ўсплыванчыкамі, бо калі правільны дранік кідалі ў ваду, то ён усплываў; так іх і падавалі, у тазіку. Сцяпан быў ахвочы да дранікаў.

Сабакі яго не баяліся, нават лашчыліся, а вось кошка Дашка так і кінулася ад яго прэч, забілася ў кут і выскалілася, страшна шыпеўшы. Але кошак увогуле стала мала, яны кудысьці сышлі.

Затое вельмі шмат стала раптам дзяцей: у вайну яны сядзелі ціха, а тут бегалі, крычалі, гулялі ў вайну.

Да Сцяпана іх цягнула незвычайна, нібы яны адчувалі ў ім роднага. Ён рабіў ім дзіўныя цацкі: то выразаў птушку з адным крылом, нібы ў смерці была нейкая палавінчатасць, то ляпіў каня з пяццю нагамі. Яны ў гэтыя цацкі не гулялі, бо цацкі былі не для таго. Але дзецям падабалася раптам прытуліцца да Сцяпана, які сядзеў на лаўцы ля дома, падстаўляючы да сонца твар. Вайна скончылася вясной, як заўсёды, і сонца было шмат. «Дзядзька Сцяпан, — крычалі дзеці, — раскажы пра вайну!» — «Бах, бах», — казаў Сцяпан. «А далей?» — «Далей я нічога не памятаю». Яны смяяліся і ўцякалі, потым зноў прыбягалі да яго грэцца.

Начамі Сцяпан хадзіў: нармальныя мужыкі пасля гэтай справы засынаюць, а ён, наадварот, нібы набіраўся энергіі, бо гэта справа таксама блізкая да смерці, і ён нібы зараджаўся.

Доўга хадзіў пад месяцам і як быццам таксама грэўся, часам адвязваў сабаку ды ішоў блукаць з ім. Так яны хадзілі ўдвох, мёртвы чалавек і яго вартаўнік, і вуліца перад імі высцілалася гладка, нават пыл нібы ўкладваўся спаць. Ішлі пад месяцам, асрэбраныя, такія задаволеныя, што хацелася зайздросціць. «Не, я табе не зайздрошчу, Вера», — казала суседка, Ганна, якая заўсёды наравіла сказаць брыдоту. Яе муж не вярнуўся, затое да яе хадзіў народны засядацель. Засядацель быў прысадзісты, з галавой, нібы заўсёды ўцягнутай у плечы, быццам нешта такое ведаў. І ён са Сцяпанам пераглядваўся, быццам яны абое ведалі нешта такое.

Але засядацель быў жывы, пры ўсёй сваёй паўнаце ён не рабіў уражання трываласці. Утульнасці — так, а трываласці — не, але ж утульнасць і ёсць нетрываласць: цяпер добра, а праз хвіліну ўсё разнясе. Ён быў жывы, жыўчык, і таму ў каханні ад яго толку было мала. Сцяпан жа, наадварот, пасля вайны ў каханні стаў дзівосны, ён рабіў гэта так, як ніколі ніхто. Звычайны мужык імкнецца скончыць, спяшаецца, Сцяпан жа як быццам ужо скончыў наогул усё і нікуды не спяшаўся, проста грэўся аб Веру, як аб смерць, і насычаўся марудліва. Да вайны ў Сцяпана з Верай дзяцей не было, а тут адразу з'явіўся, але толькі адзін, бо і хопіць.

Дзіўны гэта быў хлопчык, але дзіўны толькі на чужы погляд. Ён заўсёды быў вельмі ціхі, нават у маленстве амаль не крычаў, а падводзіў сябе ўвесь час так, быццам усё ўжо ведаў і толькі атрымліваў пацверджанні. Вера аддала яго ў сад, і там усе яго слухаліся, хаця ён нічога не казаў.

«Сярожа будзе начальнік», — упэўнена казала пра яго выхавалка Надзя, якая на сваім вяку пабачыла гэтых дзяцей як гною і ў прадказаннях ніколі не памылялася.

Сам жа Сцяпан да вайны працаваў на заводзе, але ў вайну завод разбамбілі, ды і падшыпнікі сталі непатрэбныя, бо дзе няма шыпоў — няма і падшыпнікаў. Як ветэран ён атрымліваў добрую пенсію, хаця афармляць інваліднасць не стаў, ды і навошта яму была інваліднасць? Чуў ён сапраўды дрэнна, але навошта яму было чуць, калі ён і так унутры сябе ўсё ведаў і знешні свет не мог яму паведаміць нічога новага? Іншая рэч — унутраны. Пра ўнутраны свет Сцяпана Вера сказаць нічога не магла, і нават падчас гэтай справы, здавалася, Сцяпан наглуха зачынены, але жаночым нюхам яна ўгадвала, што там, унутры, усё працягваецца і нікуды ён насамрэч не вярнуўся. Пры гэтым ён не хлусіў дзецям, што нічога не памятае, але проста ўсё гэта было ў яго ўнутры: памятаць жа — значыць прынамсі неяк пазбавіцца ад мінулага, выйсці з яго, а ў ім яно працягвалася, і там увесь час гарэлі нейкія палі і ў палях нейкае жалеза.

Вось раслі каласы, па іх ехаў жалезны танк, потым бабах! — і ў танку гарыць экіпаж, а вакол гараць каласы. Увесь час узрываўся першы пласт зямлі, пад ім ляжала шмат мёртвых, пад імі — яшчэ мёртвыя, і хутка аказвалася, што ўсе яны жывыя, бо нічога не скончылася. Мёртвыя ўставалі, разам з жывымі баранілі сваю зямлю, бо гэта і сапраўды была іх зямля, яны ў ёй жылі. Потым некаторыя кладліся назад, а некаторыя не паспявалі, як у гульні «Мора хвалюецца», і тады на іх выпісвалі забеспячэнне, але неахвотна, бо гэта ўсё ж было няправільна.

Часам Сцяпан спрабаваў растлумачыць Веры, як гэта выйшла, што ён усё ж вярнуўся з вайны. Часам ён казаў, што проста вельмі сумаваў, ды ў дадатак яго толкам не пахавалі, бо ўсім было не да мёртвых — трэба было, як кажуць, думаць пра жывых; ён паляжаў-паляжаў і вярнуўся. Часам ён казаў, што прыйшоў таму, што вельмі сумаваў па Сярожачку, але гэтаму Вера не верыла: тады яшчэ ніякага Сярожкі не было, ён з'явіўся потым, гэта Сцяпан нешта блытаў, але няздзіва і пераблытаць пры такіх перажываннях. Сярожачка вельмі яго любіў, казаў, што з бацькам яму *пакойна*.

Часам Сцяпан тлумачыў, што зямля яго не прыняла, бо аб'елася, — яго зусім было пахавалі, але яна яго неяк адрыгнула, ці гэта таксама быў выбух, але, увогуле, ачуўся ён ужо ў полі і пайшоў даганяць сваіх, але свае былі цалкам укамплектаваныя, і ён атрымаў водпуск, а тут усё і скончылася. Вера ва ўсім гэтым блыталася. Ёй падабалася, што вярнуўся, і добра. Да іншых не вярнуліся, і ўсё ў іх цяпер ішло наперакасяк: ніхто не еў, ніхто не крычаў.

Сцяпан таксама крычаў рэдка і заўсёды ў непрадказальны момант. Здаралася, ён крычаў у сне, а было, што і падчас смешнага фільма, замест смеху. Не смяяўся ён ніколі — яшчэ чаго не хапала, казала Вера, — але там, дзе іншыя смяюцца, ён гучна, працягла ўскрыкваў і касавурыўся на гасцей вільготным вокам: ну як? Госці хутка прывыкалі, ды і не так часта яны прыходзілі: зімой ды вясной. Перад застольнем прынята было абвяшчаць хвіліну маўчання. Пасля яе ніхто доўга не ведаў, пра што ўвогуле казаць. Казаць наогул не трэба — ці мала што, — ды і пісаць таксама не абавязкова. Я раблю гэта больш па інэрцыі, калі няма ніякай працы па доме.

Вера ўпершыню з мужам загаварыла пра галоўнае не адразу — праз год, калі да яго прыехаў аднапалчанін. Яна адразу зразумела, што аднапалчанін таксама з тых, бо ён ішоў упэўнена. Ён ніколі раней у іх не быў, але адразу знайшоў дом, а дом стаяў у глыбіні вуліцы, пяты корпус сямнаццатага мікрараёна, і нават пошта не заўсёды яго знаходзіла. Ён нібы ўчуў.

Наогул мёртвыя рабілі ўсё павольна, але ўпэўнена. Яны з мужам доўга сядзелі на кухні, спачатку маўчалі, потым пачалі спяваць песні, якіх Вера таксама ніколі не чула: словы ў іх былі такія, якія вынаходзяць часам дзеці на стадыі першага лепету, не ўмеючы яшчэ назваць звычайнымі словамі свае незвычайныя пачуцці. «Убыр», «актаган» — нешта такое, цюркскае, як здавалася Веры. Вера адчувала ў цюрках нешта юркае, нібы яны маглі часам шмыгнуць і ў смерць і нешта прынюхаць пра яе. Яны былі самі даволі да яе блізка. Але і Вера сёе-тое разумела, і таму, магчыма, здолела прывабіць назад мужа.

Яна таксама была не зусім аднародная, а як бы сярэдзінка на палоўку — Вера, а пры гэтым і Фаміна, гэта значыць дачка нявернага. Інакш муж не вярнуўся б да яе — няма сэнсу вяртацца да чалавека, які не разумее.

У астатнім ён нічым не адрозніваўся, нібы і да вайны імкнуўся да нежывых, але тады ў яго была як бы манія: ён усё рамантаваў, а калі не ламалася, то разбіраў і збіраў. Такіх называлі рукастымі, і сапраўды яны ўсё ўмелі. Цяпер жа ў яго было не дапрасіцца, каб ён паправіў плот у кветніку ці адрамантаваў водаправод. «Навошта, — гаварыў ён з бездапаможнай усмешкай, — і так добра ж».

Вера хутка зразумела, што так сапраўды было добра, прынамсі для яго: пахілы плот быў бліжэй да свайго ідэальнага, дасканалага стану, і водаправода ж, у выніку, таксама не будзе, гэта значыць ваду не трэба будзе нікуды праводзіць — яна будзе ўсюды. І Вера змірылася ці навучылася сёе-тое рабіць сама.

Ага, а сябар мужа пражыў у іх нейкі час на кухні на раскладушцы, і Вера раптам яго папрасіла: «Ну раскажы хоць ты пра вайну». Ён паглядзеў на яе з нечаканай цікавасцю. «Пра што менавіта?» — спытаў ён. «Ну, як там...» — «Ды ядуць увесь час, — адказаў ён. — Увесь час ядуць. Сядзіш часам, глядзіш — нармальны чалавек, але ўвесь час нешта глытае». Вось тут Веры стала не па сабе, але потым яна падумала: паміж баямі што ж яшчэ рабіць?

Вайна ўяўлялася ёй месцам накшталт ваеннай карты, дзе ўсё ахоўнага колеру: нацягнутыя маскіровачныя сеткі, вырытыя ў траве акопы, у іх людзі, яны ядуць. Потым — бах, бах, і ніхто нічога не памятае.

Пра подзвігі яна разумела адразу, што ніякіх подзвігаў няма, што словы гэтае — яна ўжо крыху разумела карані слоў, размешчаныя таксама ў зямлі, — паходзіць ад «падзвінуцца», гэта здараецца, калі пасоўваецца ад выбуху зямля і выходзяць мёртвыя. Але ў мітусні бою яны часам мяняюцца месцамі, тады закопваюць жывых і ставяць над імі чырвоны крыж. Служба чырвонага крыжа, разумела Вера, была насамрэч пахавальная.

Уголас усяго гэтага казаць было нельга, услых казалі, што вайна — святая справа, але Вера ўжо ведала ад мужа, хоць ён амаль нічога не прагаворваў услых, што гэта справа абмену жывых на мёртвых і іх кругавароту ў прыродзе. На зямлі была абмежаваная колькасць людзей, больш бы яна не пракарміла, і людзі гэтыя то адыходзілі пад зямлю, то выходзілі назад і змешваліся. Гэтым, дарэчы, тлумачылася тое, што адны людзі падобныя да іншых, і лжэнавука генетыка была ні пры чым. Яны былі не падобныя да іншых, а тыя ж самыя. Муж з нябожчыкам сябрам абменьваліся паштоўкамі да ўсіх святаў, і паштоўкі таксама былі тыя ж самыя, з зайцамі. Яны перасылалі іх адзін аднаму, і такім чынам на пошце таксама ствараўся кругазварот.

Ішлі гады, Сярожа сапраўды стаў начальнікам, завёўся адзін тэлевізар, потым іншы тэлевізар, потым яшчэ некалькі прыбораў, прызначэння якіх ніхто не разумеў, але жыццё ад іх рабілася адчувальна лягчэйшым, — а Вера не толькі не магла памерці, але і амаль не старэла. Мінула сорак гадоў, а яна не памірала і пачала ўжо стамляцца, але потым зразумела, што Сцяпан ужо памёр за яе, аб гэтым увесь час гаварылі па тэлевізары. Ён загінуў за яе, гэта значыць замест, і яна цяпер не магла памерці, ёй даводзілася ўсё гэта працягваць.

У дадатак мёртвыя ўжо складалі большасць, прычым так было з самага пачатку, але тады іх хацяў б не было відаць. Мёртвых называлі маўклівай большасцю, бо яны і сапраўды ўсё больш маўчалі, а больш за ўсё ім хацелася, каб усё заставалася, як ёсць.

Цяпер ужо амаль ніхто не папраўляў платоў, а водаправод працаваў толькі тры дні на тыдзень. Мёртвыя наогул не хацелі нічога мяняць. Зрэдку ім толькі хацелася на вайну, бо гэта быў іх шанец падчас чарговага подзвігу крыху адляжацца ў зямлі, а за сябе прызваць каго-небудзь з тых, хто адляжаўся. Але муж Веры так любіў Сярожку, што на вайну больш не хадзіў. Ён па-ранейшаму шмат еў, падоўгу грэўся на сонцы, гуляў пад месяцам, толькі гэтай справай яны ўжо больш не займаліся, бо «час і гонар ведаць». Сцяпан хадзіў па нядзелях гуляць на могілкі і даглядаў там дзве магілы суседзяў, у якіх не было сваякоў, і магілы зарасталі. Адзін сусед быў цясляр Платонаў, другі — сталяр Мамлееў. Сцяпан казаў, што яны былі добрыя, нешта разумелі, але ім здавалася, што ўсё страшна, а насамрэч, казаў ён, усё звычайна. І рабіў пры гэтым звычайны свой жэст, схіляючыся ўсім целам на адзін бок, але растлумачыць падрабязней не ўмеў, а Веры было не вельмі цікава.

Горад зарастаў, але гэта было нічога.

Нічога было густое, роўнае, зялёнае, прыкладна як тое поле бітвы на карце ахоўнага колеру, якім Вера заўсёды яго ўяўляла.

Зрэдку ў двярах уюэ пачыналі расці грыбы: недзе яны праломвалі асфальт, а недзе і асфальту ўжо не было. Сцяпан адчуваў да грыбоў асаблівага роду блізкасць: знаходзіў ён іх беспамылкова, нібы адчуваў, казаў ласкава, што грыб — той жа мярцвяк, вунь ён як з-пад зямлі лезе, і выразаў з часопіса «Навука і жыццё» артыкул, дзе гаварылася аб асаблівай карысці грыба, аб тым, што ў яго ёсць свядомасць і нават памяць. Грыб памятаў час, калі яшчэ нічога не было, адны грыбы. Вера іх саліла, марынавала, але іх не меншала. Узімку муж знаходзіў зімовыя грыбы: яны былі такія ж, але белыя. Белы грыб лічыўся царом грыбоў і памятаў, верагодна, больш за іншых. Часам незразумела было, смяяцца ці плакаць. Але гэта даўно ўжо было незразумела.

А потым Вера таксама амаль перастала спаць па начах, і цяпер яны з мужам ходзяць на прагулкі ўдваіх.

Іх нярэдка бачаць на вуліцах гарадоў часта ваюючых краін: моцны марудлівы стары і жанчына вечна сярэдніх гадоў, такая, у якой аднолькава спрытна выходзіць прапалоць агарод, прадыктаваць дыктоўку або нарэзаць салат.

Усё робіцца дзеля іх, бо больш амаль нікога не засталося, і нічога страшнага ў гэтым сапраўды няма. Чаго нам баяцца? Мы ўжо баяліся, час навучыцца радавацца.

***www.novaya.no.***

***Пераклад з рускай.***

# У кругаверці


Анатоль ДЭБІШ

### Ці зразумець?

*Ці зразумець: куды коціцца*
*поўня між хмар,*
*Падае знічка, стаміўшыся ў небе*
*гарэць?*
*У сэрцы збалелым кахання*
*апошняга жар —*
*Ці зразумець?*
*Ці зразумець: першых красачак*
*веснія сны,*
*Сонца праменні, што душы*
*імкнуцца сагрэць,*
*Ворага ўсмешку і сябра*
*пагляд ледзяны —*
*Ці зразумець?*
*Ці зразумець: сум паэта*
*ля роднай мяжы,*
*Песню якому ўжо даспяваць*
*не паспець.*
*І на кладах ставяць свечку чаму*
*і крыжы —*
*Ці зразумець?*
*У ланцугу хуткаплынных*
*імгненняў і дзён,*
*Дзе ўсё няіснае, дзе толькі існая*
*смерць, —*
*Волю губляю, да гвалту*
*трапляю ў палон...*
*Ці зразумець?*
*Мне ці лістотай кружляць*
*па-над роднай зямлёй,*
*Зоркаю ззяць, ці між хмар*
*перунамі грымець, —*
*Каб цалаваць твае вусны*
*і стан мілы твой?..*
*Не зразумець.*

***

*І змрок у міг адзіны з сонцам зліўся,*
*І слых — у лёгкі гук ператварыўся,*
*І слова — стала музыкай для нас...*
*Мінаў я лес, дзе хлуд ляжаў і смецце,*
*І крумкачы крычалі хціва ў вецці,*
*Дзе спаў на хмары —*
*хлопчык птушкапас.*
*Звінелі промні нада мной навокал...*
*Я азірнуўся... там, паміж аблокаў,*
*Маленькі хлопчык дудку майстраваў.*
*Траву шчыпалі авадні і восы...*
*У дудку дзьмуў натхнёна хлопчык босы...*
*Была вясна... Я ў ім — сябе пазнаў.*

### Да анёла

*Анёле — ахоўнік мой,*
*на якім плячы ты пасяліўся?*
*Лепей схавайся глыбей*
*у маю кішэню,*
*бо як будуць біць,*
*каб не заехалі табе ў вуха,*
*а біць будуць, бо:*
*гумавая дубінка —*
*а нам, беларусам, здарается,*
*бракуе свядомасці:*
*думаем — не так,*
*гаворым — не тое,*
*спрабуем знайсці*
*нейкую праўду і волю,*
*а знаходзім — дулю з макам.*
*Ляці, анёле, у нябесны сад.*
*І не вяртайся...*
*Ніколі!*
*Ніколі!.*

### Капліца

*Без вокнаў і дзвярэй*
*Стаіць капліца*
*Паміж небам і зямлёй*

*Белая ўдзень*
*Чорная ўначы*
*Няісная як міраж*

*Даўно яе сцены*
*Пакінулі кажаны*
*Пацукі і мышы*

*І толькі як нямко*
*Вакол яе*
*Цень мой блукае*

*Ніяк не можа*
*Патрапіць*
*У яе сутарэнне*

*Але аднойчы*
*Вокны прарастуць*
*Скрозь сляпыя сцены*

*І я ўвайду ў яе*
*Як цвік у дошку*
*Як маланка ў дрэва*

*Як душа ў цела.*

### Жабрак

*Крочыць па полі*
*Жабрак нехламяжы*
*З торбаю за плячыма*
*З маладзіком у руках.*
*На левым плячы ў яго — спіць ноч,*
*На правым — дзень.*
*Ногі — вясёлкаю скуты.*
*Пустыя кішэні*
*Зрэбнай кашулі,*
*Ліхтарнае святло,*
*У промнях якога*
*Грэецца мыш...*
*Крочыць па полі*
*Жабрак нехламяжы*
*Ценем маім...*

### У кругаверці

*На дол сняжынкі першай лёт*
*Кладзецца кропляй дажджавою.*
*Ператвараецца ў лёд*
*Вада, і стане лёд вадою.*

*Бы сон, мінула маладосць.*
*І старасць ў вочы зазірае:*
*— Ты тут, на гэтым свеце госць,*
*І толькі, — быццам дакарае!*

*Усё ў жыцці маім было:*
*Вясна і лета. Ў кругаверці*
*Гадоў — усё спела і цвіло,*
*Цвіло і спела, каб памерці.*

*Хай сохла восеню трава,*
*Ды зноў вясною ажывала.*
*Кахалі Вы, кахаў я Вас...*
*Шкада, што раптам Вас не стала.*

*Ды верыцца, што з Вамі зноў*
*Сустрэнемся — любоў не сцерці —*
*У кругаверці нашых сноў,*
*Жыцця бясконцай кругаверці.*

# Быць прарокам


Васіль ДЭБІШ

***

*Быў. Ёсць. Буду...*
*Уладзімір Караткевіч*

*Калі душу гняце знямога,*
*Калі палоніць сэрца страх,*
*Як ад Евангелля да Бога,*
*Нас да радзімы кліча шлях.*

*Шлях не забыты, не збуцвелы*
*І непадкупны, як Ісус.*
*Да Беларусі дойдзе смелы,*
*І знойдзе там загібель хлус.*

*І збочыць мы не маем права,*
*Нястрымны, акрылёны крок.*
*Няхай смяюцца з нас Варавы,*
*За спінай тоячы клінок.*

*Хай пацалунак здрады Юда*
*Мне дорыць, як змяіны ўкус.*
*Я — быў,*
*я — ёсць,*
*заўсёды буду!*
*Бо я — твой сын, я — беларус.*

***

*У нудзе непрагляднай, адчай*
*Захлынуўся б я — выжыць не змог*
*Без патрымкі іх: аберагаюць*
*Дзве святыні — Радзіма і Бог.*

*Калі цемра кладзецца густая*
*На крыжы непазнаных дарог,*
*Шлях мой зорна тады асвятляюць*
*Дзве святыні — Радзіма і Бог.*

*Не сканаць аднаму ў паняверцы,*
*Ніпачым ні палон, ні астрог,*
*Бо навек пасяліліся ў сэрцы*
*Дзве святыні — Радзіма і Бог.*

### Быць прарокам

*Сумна ў гэтым краі быць прарокам.*
*Знае гэта воран і паэт.*
*Бо прарок заўсёды адзінокі.*
*Адзінокі, як і гэты свет.*

*Страшна ў гэтым краі быць прарокам:*
*За правіну б'юць і без віны.*
*Лёс прарока — у халодным змроку*
*Біцца аб сцяну глухой маны.*

*Цяжка ў гэтым краі быць прарокам,*
*Ставіць талент і жыццё на кон*
*І тачыць зняверʼя краты вокам,*
*Поўных слёз, аж да сканчэння дзён.*

*Быць прарокам тут, у краі мала.*
*Толькі кім быць мусім у жыцці,*
*Каб пад непахіснаю навалай*
*Каінаў падняцца і пайсці?*

***

*Вока мутнае дʼябла ў акне:*
*Ён цапер на зямлі валадарыць.*
*Калатнеча і стогны. Мяне*
*Акружаюць паўсюдна пачвары.*

*Пруцца ў дзверы — адмычку знайшлі.*
*Чую тухлы іх, жудасны подых.*
*Я застаўся адзін на зямлі*
*З усяго чалавечага роду...*

*І змагацца няма болей сіл.*
*Ад натугі слабеюць калені.*
*Мерцвякі паўставалі з магіл —*
*Ў бляклым водбліску поўні мігценне.*

*Чую ветру шалёнага гул.*
*Твар нямее, што сталася з тварам?*
*Я крычу, да люстэрка бягу.*
*Гэта ж я!?. Звонку лезуць пачвары...*

***

*Прыхадні з другога вымярэння*
*Дзе ні ступіш — сноўдаюцца ценем,*
*Раздаюць загады, як нам жыць,*
*Што спяваць, якім багам служыць,*

*Па якой, падказваюць, дарозе*
*Крочыць нам, у бок які, куды...*
*Сярод іх жывём, нібы ў гіпнозе.*
*Твары іх пад маскамі заўжды.*

*Калі ж дакранешся ненарокам —*
*Засычыць змяёй, ударыць токам*
*Ці заенчыць, загалосіць нема.*

*Тут глядзі, мой братка, пільным вокам,*
*Не праспі свой лёс, яны не дрэмлюць,*
*Растаўляюць пасткі. Тут сістэма...*

### Гара

*На вяршыні гары —*
*стромкая крушня.*
*З часам гара абветрылася,*
*і камяні коцяцца на дарогу,*
*якая ніколі не бывае пустой.*
*Людзі спяшаюцца,*
*імкнучыся прамінуць*
*небяспечнае месца,*
*бо іншага шляху няма.*
*А яшчэ чакаюць,*
*пакуль зваліцца апошні камень...*
*І ніхто не здагадаецца*
*падняцца на вяршыню*
*і спіхнуць камень у бездань.*
*Не ўцяміць,*
*што ніхто не зробіць гэта,*
*апроч нас саміх.*

### Чалавек

*Ідзе чалавек з пальмавай галінкай*
*і зернем у кішэні,*
*нясе на спіне крыж.*
*Вакол спалоханыя людзі,*
*закутыя ў кайданы страху,*
*заходзяцца ад стогну і плачу.*
*— Людзі!*
*Пачуйце мяне!*
*Я прынёс вам*
*праўды зярнятка,*
*каб яно ўзрасло, —*
*шэпча Чалавек сасмяглымі вуснамі.*
*— Сонца згасла.*
*Імчыцца ў чорнай прасторы*
*чорная зямля.*
*Скіньце з ног*
*ланцугі-вярыгі...*
*Дзе ж хлеб наш надзённы?*
*Гандляры з чорнымі душамі*
*паселі ў нашых храмах*
*і льюць нянавісць,*
*выпальваюць з нас*
*роднае, святое,*
*чым мы спрадвеку наталялі*
*голад жыцця.*
*У нашых сэрцах няма больш*
*зыркіх прамянёў,*
*цёмныя яны ад трывог ды болю.*
*Ды ёсць выхад:*
*ЗМАГАЦЦА ЦІ ЗГІНУЦЬ!..*
*Раптам хтосьці закрычаў:*
*— Святароў выганяе ён з храма,*
*блюзнер і паганец.*
*Тут лямант пачаўся.*
*Хтосьці камень падняў*
*і кінуў,*
*хтось брудам...*
*І ніхто не заўважыў,*
*што Бог пазірае*
*з яго ных вачэй.*

***Сёлета паэтам-братам ДЭБІШАМ спаўнілася па 60 гадоў.***
***Пажадаем ім радасці і трываласці!***



Людміла АНДЗІЛЕЎКА

# Златка

На першую сустрэчу пад знаёмства прыйшла апоўднем: дзверы адчыніла дзяўчо. Мяне папярэдзілі: васьмімесячную малышачку даводзіцца пакідаць на суседку-школьніцу. «Школьніцай» аказалася сама маці двух дачок: пятнаццацігадовай Яські, цяжка хворай на ДЦП, інваліда першай групы ад нараджэння, і дробненькай, бы фарфоравая лялечка, бялявенькай, з ледзь намечаным на лысай галавёнцы пушком Златкі; менавіта яе мне і планавалася няньчыць.

Абрысы Златчынага кругленькага тварыка з пімпачкай носа і цесна, глыбока ля яго пасаджаных вачэй не адразу распазнала мая падсвядомасць за візуальна прывычнага жыхара менавіта тых затомісаў, адкуль я сама з'явілася ў гэты свет. Мы пазнаём ці не пазнаём чалавека пры першым паглядзе, тым сілкуецца наша адкрытасць, прыязнасць адзін да аднаго, давер альбо падсвядомае адмаўленне ад стасункаў з «чужым, неапазнаным» чалавекам. Але ведала: як толькі дзіця застанецца пад маёй поўнай апекай — палюблю безумоўна, назаўсёды. Златка стала самай першай, самай моцнай любоўю з нянчаных мною дзяцей, самым балючым расстаннем, пякучым успамінам, якое я доўга-доўга ўтрымлівала ў нейкіх кладовачках сэрца пад замкамі-запорамі, накладзенымі на эмоцыі: выняткі прафесіі.

Маленькая Златка ў дзень знаёмства сама без угавораў кінулася паказваць мне што ўмее: было што! Дзяўчынка прапаўзла па дыванку праз увесь пакойчык, самастойна паднялася на ножкі, спрытненька цісканула на панэлі дзіцячага мадэрнавага, замежнай вытворчасці, электроннага музычнага цэнтра патрэбную з многіх кнопачак — загучала мелодыя; Злата пачала прысядаць, паварочвацца, хітацца з боку ў бок, патрэсваць дупкай у пухнатым памперсе: танчыла. Злата і потым, на маіх вачах, так хутка развівалася, быццам не растрачаны інтэлект хворай Яські ахвяравалі дадаткам да здольнасцяў гэтай кволенькай, анемічнай, з яўнымі прыкметамі рахіта дзяўчынкі-«мурашачкі» — так звала яе бабуля, «козачкі» — зваў дзед. Злата праяўляла надзвычайную здольнасць да навучання: колеры, лічбы, літары, словы, вершы, пазлы — лёгка асвойваліся, запаміналіся зусім, здавалася, непрыдатнай да навук галовачкай. Форма яе галавы мянялася відавочна на працягу нядоўгага тэрміну: з кругленькай, бы мячычак, ператваралася ў выцягнутую агурочкам, раптам намячаўся квадрат, затым парушалася сіметрыя, сплюшчвалася патыліца. Насцярожвалі гэтыя фокусы анатоміі. Але бацька́м, зведаўшым трагедыю дыягназа ДЦП з першай дачушкай, перажыўшым цяжкасці рэабілітацыі і ўтрымання больш-менш устаялага фізічнага стану спаралізаванага дзіцяці з эпілептычнымі прыпадкамі, — ім Златчыны асаблівасці падаваліся мілымі і бяскрыўднымі. Тым больш: малая сапраўды расла кемлівая, вясёлая і развівалася інтэлектуальна надзіў хутка. У год з паловай яна лёгка збірала складаныя пазлы з мноствам элементаў, пад восьмы дзень сакавіка, прыняты за свята паслухмянай большасцю нашага «народанасельніцтва», у падарунак маці мы паднеслі размоўны слоўнічак Златы на трыста слоў, дзе з перакладам і малюнкамі дадавалася арыгінальнае дзіцячае вымаўленне з транскрыбцыяй: «Кучьы муля матато. Татаць хута Патато». (Уключы музыку на магнітафоне, будзем чытаць «пра хрушу Пятачка.»)

Алёна, маці, сама яшчэ дзіця з выгляду, хоць і набліжаўся ў яе жыццi канец чацвёртага дзясятка, занадта засярodзілася на матэрыяльнай базе сям'і. Заклапочанасць яўна несла псіхічна-хваравіты характар: склады валізаў з вопраткай, ні разу не ўжыванай з прычыны шматлікасці, склады посуду, бытавых прыбораў, цацак, забітыя цюкамі-клункамі антрэсолі, шафы — пад столь, дзе нічога немагчыма адшукаць, каробкі, напханыя праз верх няношаным, але ўжо не модным па даўнасці набыцця, абуткам... У маленькай двухпакаёвай кватэрцы, дзе цяснілася сям'я; на летніку — у прасторным доме, выбудаваным на грошы бабулі (маці Алёны) для дзяцей-унукаў сярод буйнага саду-гароду, у гаражы — залежы-завалы зусім не патрэбнага барахла. Дзесьці будаваліся дамы і кватэры, праўдамі-няпраўдамі афармленыя пад факт інваліднасці, шматдзетнасці (хутка народзіцца яшчэ Васіліса,) а жыццё праходзіла тут, у цесным складовішчы «скарбу». Ёсць у гэтай асаблівасці сацыяльныя карані і апраўданні: доўгімі гадамі народ, які не ведаў дастатку, назапашваў у генах цягу да лішку. Алёнін эмацыйна-ўзрушаны стан супакойваўся, на кароткі час жанчына адчувала палягчэнне толькі ў момант новага прывозу пакупак: Андрэй (бацька сямейства) рэгулярна па загадзе жонкі выпраўляўся ў Вільню, Польшчу, Расію з доўгімі стужкамі спісаў патрэбы — затаварыцца.

«Свободен!» — задаволена камандавала Алёна мужу, калі той уносіў у вузенькі калідорчык новую партыю пакетаў, каробак і мяхоў: з дзясятым гаршчком для Златы, восьмым кругам для купання ў ванначцы, стоперашай «папілай», так жартоўна ў сям'і называлі пailачку для малюкоў. Гадавалая Злата тыркала пальчыкам у бутэльку з вадой, патрабавала: «Папила!». Андрэй, задаволены, што дагадзіў, круценька зграбаўся ў спартовы цэнтр на валейбол ці яшчэ куды пад «тую ж тэму». Як Абдула з «Белага сонца пустыні», велізарнага росту, шыракаплечы, магутны паставай, ён, калі і прысутнічаў дома, — ці спаў, ці выконваў Алёніны загады па дастаўцы набытку, альбо чакаў гасцей, якіх Алёна запрашала ў дом часта, каб «зафіксаваць» у ім прысутнасць мужа.

Сям'я перажыла развод яшчэ да нараджэння Златы; яго прычынай стала Алёніна здрада і адпаведны сыход Андрэя да другой жанчыны. Алёнін новы абранец — как он меня любил! — чамусьці мужам не захацеў стаць, і тады яна кінулася вяртаць Андрэя. Гадалка абяцала: не адразу, чакай. Алёна не любіла ёлачныя цацкі ў чырвонай гаме, яны напаміналі той страшны Новы год, адсвяткаваны у адзіноце. Ганарылася дзявочай фігурай: праўда, і так невысокая, дробненькая, тым нервовым адрэзкам жыцця схуднелая ў костку, у модных строях выглядала сямнаццацігадовай дзяўчо, а колькі ёй і было тады? Цяпер Алёну засмучала пакругелаcць клубоў і не дужа, на яе думку, тонкая талія. «Вот похудею, стану стройной, тогда всё своё ещё возьму!» — неяк помсліва, бы мантру, паўтарала Алёна. (Жанчыны, якім бачыцца іх жыццё няшчасным, чамусьці не заўважаюць, што шчаслівыя жанчыны зусім не падобны на папулярных «зорак» і рэдка маюць мадэльную знешнасць.) Алёна набыла крыху лішняй вагі, але выглядала вельмі хараша. Не магла знешнасць стаць вінаватай у яе «няшчасці». Рэфрэн выдаваў крыўду на мужа. «Подтяну детей, немного оклемаюсь — верну утраченое!» — цвердзіла Алёна сама сабе, густоўна ўпрыгожваючы ялінкі срэбраным ці залачоным камплектамі, чакалі чаргі ў пакуль яшчэ не распачатых святочных каробках новыя: белы, фіялетавы і модны чорны з шэрымі ўкрапленнямі камплекты ёлачных цацак.

Алёніны крыху востранькія вусны, выразныя блакітныя, глыбока пасаджаныя вочы, вялікі для дробнага тварыка, якісь кенгурачы носік стваралі сумны вобраз пакрыўджанай шчымліва-кранальнай жаноцкасці. Асабістая форма яе носа перадалася ўсім дачушкам і ўпоперак патрабавання класічных канонаў прыгажосці даказвала: жаноцкасць мае большую прыцягальнасць, чым прыгажосць.

Андрэй тады і сапраўды вярнуўся. Алёна ўзялася рабіць з яго бізнесмена. Афармілі прыватнае ўнітарнае прадпрыемства, гандлявалі канцылярскай дробяззю. Грошы круціліся ў сямейным бюджэце выключна са шчодрых ахвяраванняў Алёнінай маці, працавала галоўбухам вялікага транспартнага прадпрыемства сталіцы, мела шматлікія «падвязкі і магчымасці». Будоўля кватэр, дамоў, закупка матэрыяльнага складовішча вяліся менавіта з тых крыніц.

Бізнес прагарэў: партнёр здрадзіў, падмануў, фірма абанкруцілася. Пачынаць прыйшлося ўсё спачатку: «Боюсь, Андрей сломается». Бухгалтэрыя ва ўмовах беззаконнай эканамічна-прававой структуры краіны — справа адказная, чужому чалавеку «сакрэты фірмы» не даверыш; крукам сядзелі над паперамі, яшчэ Алёна давучвалася завочна ў эканамічным універсітэце.

Дзве спрактыкаваныя, таленавітыя, высокапрафесійныя бухгалтаркі мусілі кожны месяц скрупулёзна пералічваць недаплаты дзяржаўнай «дапамогі» — і штораз знаходзілі падман. Дабіцца выпраўлення памылак цяжка — падумай, што даражэй: нервы, здароўе ці тыя капейкі, якімі дзяржава бралася надзяліць, ды скруціла, паабяцала вярнуць, а зноў не дадала па другім крузе... Гэта прыклад, калі два бухгалтары выдатна ведаюць інструкцыі і дакументы. А спрэс сем'і, якія нават не ўяўляюць, што і калі ім «палагаецца» па законе. Раўнадушнасць чыноўнікаў, людзей, злачынна абыякавых да чалавека, да канкрэтнай сям'і ўрэшце знішчае і саму дзяржаву. Пры злачыннай сістэме грамадзянін вызваляе сябе ад абавязкаў перад ёй. Той, хто ірвецца дагадзіць цыркуляру, пункціку, бюракратычнай змове насуперак людской патрэбе, ёсць першы злачынца, бо разбурае дамоўленасць грамадскага ладу — утульнасць жыцця краіны.

Зайздросная скнапнасць тачыла і Алёну: шкрабло яе, што бацькі жывуць у трохпакаёвай кватэры, а «мы должны ютиться в двухкомнатной!». Мяняцца ж яна не жадала — не падабаўся раён, суседзі і не дужа мадэрновая планіроўка бацькоўскага жытла. Не хацелася Алёне разумець і тое, што немалыя грошы, спушчаныя на склады непатрэбнага шмацця, якраз і палепшылі б жыллёвыя ўмовы. Тут логіка бухгалтара не працавала, уключалася ўпартасць, знаходзіліся вінаватыя: нявестка, маці, свякроў, якая зусім адна жыла ў сваёй кватэры — а магла ж прадаць яе і аддаць грошы Алёне.

Бабуля з другога боку, маці Андрэя, была тут не ў фаворы, бо не мела магчымасці дапамагаць грашыма, і з гэтай прычыны аўтарытэт страціла, мала таго, бабуля асуджала нявестку за «мяшчанскае нутро», намякала на «беззаконны, грэшны дастатак Алёнінай бацькоўскай сям'і, які стаў прычынай нараджэння дзіцяці-калекі». Пасля такіх слоў дарогу сюды перад бабуляй зусім закрылі. Але Яську ўсё ж нярэдка выпраўлялі да яе на пабыўку. Старая дажывала свой восьмы дзясятак. Цяжка было спраўляцца з унучкай — Яся ўвесь час валілася на падогу праз нязграбнасць рухаў, білася аб рагі мэблі, дзвярныя касякі, сцены, стаўляючы новыя і новыя сінякі на цела.

— Скажи ей, что она плохая бабушка и ты на неё обижена, — падказвала Ясі на вуха маці, калі хворая дзяўчынка, з вялікай цяжкасцю вымаўляючы простыя словы, радасна перагуквалася па спецыяльна дадзеным пад фізічна абмежаваных людзей тэлефоне.

Яська не вялася на дурны шэпт, пасядзеўшы хвілінку ў задуменні, раптам агаломшвала дзіцячай мудрасцю: «А-а, мая ба-бу-ка. Ме отэн залка её».

Выдаючы перад бацькамі істэрычныя прыпадкі з неўтаймаванай злосцю, жорсткімі папрокамі і абра́замі, Яся ніколі і нічым не пакрыўдзіла Злату ці (потым народжаную) Васілісу. Сваіх сястрычак яна любіла такой ахвярнай, безумоўнай любоўю, на якую здольна толькі дарослая жанчына, надзеленая моцным інстынктам мацярынства.

Заканчэнне на стар. 7 »

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

# Златка

Нельга лічыць нормай, калі нянька ў сям'і становіцца для дзіця самым любімым чалавекам. Гэта азначае, што іншыя члены не дадаюць эмацыйнага цяпла і любові. Алёна з-за бізнесовых клопатаў не магла ўдзяляць належнай эмацыйнай увагі дзецям, забывалася пацалаваць іх перад сном, па прасонні. Але яна любіла апрануць дзяўчатак у модныя сукенкі і любавацца імі ў адбітку люстэрка з радасным замілаваннем.

Выпраўляючыся на прагулку, я падносіла Златку прыткнуць тварыкам да маміных вуснаў, калі тая старанна падлічвала «дэбет з крэдытам». Хутка няня стала для Златы самым любімым чалавекам у сям'і. Дзяўчынка не хацела адпускаць мяне дамоў, ашчэплівалася тоненькімі ручкамі, павісала на шыі бы малпачка, — не адарваць: «Ты никуда не уйдёшь? Останься! Не уходи! Я не отпущу тебя!». Злата пільна ўглядалася ў мае вочы, шукала пацверджання. Я жартавала, заводзячы зноў і зноў нашу з ёй сакрэтную песеньку: «Малпачка мая, худышка мая. Жалелка мая. Душылка мая».

— У няні — свае ўнукі! Яна любіць іх, а ты ёй чужая! — вычытвала малую бабуля.

— Гэтыя словы раняць Злату. Не кажыце так, — прасіла я.

— Чаму? — не разумела тонкіх эмоцый бабуля.

— Я люблю Злату, няхай дзяўчынка ведае толькі тое, што цяпер ёй трэба.

Злата не прызнавала бабулю, яе шчырыя, але прыземленыя ахвяры пакуль што не мелі для дзіця аніякага кошту.

Бабуля. Дзе чалавек чэрпае столькі сіл і цярпення? Вачэй не адвесці ад яе твара — такая прыцягальная прыгажосць: натуральная, жывая, сапраўдная. А голас! Слыху не мела, а пачне вуркатаць штосьці, закалыхваючы немаўля, і разумееш, як спакушалі Сірэны сваіх доўгачаканых ахвяр. Голас яе меў шматгалосныя абертоны, гучаў таямніча, з аксамітным адценкам, неяк, з самага нутра — ахутваў, заварожваў, зачароўваў.

Уся вялікая сям'я з мужам, дачкой-зяцем, сынам-нявесткай, унукамі з двух бакоў толькі ёю, бабуляй, сілкавалася і ўтрымлівалася. Жанчына перасіліла анкалогію, даўна пакутвала на жудасны артроз (прамыя уколы ў суглобы), перажыла моцную наркатычную залежнасць сына, здраду мужа ў самы цяжкі перыяд свайго жыцця, да пералічанага дадалося нараджэнне ўнучкі-інваліда, якую ёй, па большасці, і даводзілася выхоўваць; бясконцае лекаванне Яські, развод дачкі з зяцем, потым іх нялёгкае прымірэнне, абавязкі на рабоце, дачныя клопаты: сад-гарод, саленні-марынады...

Жанчына шчыра шкадавала дачку, па першым яе покліку ехала стомленая пасля працы грамадскім транспартам (пры наяўнасці не аднаго аўто ў сям'і) праз увесь горад даглядаць унукаў, дапамагала ва ўсім, цярпліва выслухоўвала раўнівыя Алёніны папрокі: навошта дапамагае нявестцы і «тым» унукам, калі «тут» яе дапамога куды важней?! Дзе ўзяць сілы? З гэтай прычыны, па часовай слабасці і параіла дачцэ — зрабі аборт. Алёна не паслухала.

— Ну что я, умышленно забеременела?! По-твоему — я думаю только об удовольствии? Да я живу при своём муже без секса! — апраўдвалася перад маці Алёна.

Здрадай адбылося для Златы нараджэнне яшчэ адной сястрычкі. Яна і так расла ў згодзе быць заўсёды не першай. Ясьчына нездароўе дыктвала ўклад «малой і вялікай» сям'і. Планы і жаданні, праграмы святаў і будняў залежылі ад фізічнага стану і настрою Ясі. Першая справа — абслужыць хворую: Ясю першую купалі раніцай і нанач, яе першую кармілі, першую апраналі на вуліцу, першай аддавалі ўвагу. Змалку назіраючы Ясіна калецтва, Злата цярпліва саступала. І вось... яшчэ «якаясь дзяўчынка»!

Алёна была ў раддоме. Здзічэлай ад адсутнасці маці Златце паказалі вечарам відэасувязь з бальнічнай палаты. (Дарослыя ў сучасным свеце гаджэтаў страцілі натуральны нюх, прыродныя эмоцыі і пачуцці.) Убачыць у маленькім экранчыку «недасягальную» маму, якая невядома дзе трымае на руках чужую дзяўчынку, а не яе! Раніцай Злату было не пазнаць, не спала ноч, захварэла: зацялася, стала палохацца грамчэйшых гукаў, адмовілася ад ежы, не пайшла гуляць...

Маці хутка вярнулася, Злата яе не хацела бачыць. Праз акно халодным позіркам сачыла яна праходку бацькоў ад аўтамабіля да ўваходных дзвярэй: зусім не адрэагавала на маміна радаснае прывітанне рукой. Потым пакрыўджана-зларадна заключыла (двухгадовае дзіця!):

— Ладно, папе помашу.

Ваську, нованароджаную сястру, Злата жорстка сустрэла — у люльку пуляліся бутэлечкі з-пад малочнай сумесі, цацкі, «папілы» і боцікі.

Злату аддалі ў садок, мне даручылі Васілісу. Самым галоўным вінаватым у гэтых абставінах для Златы выходзіла я: «Здрадзіла ў самы цяжкі час, кінула ў садок да чужых людзей, сама ў той момант дома, разам з усёй сям'ёй, але ўжо без Златы, люблю ненавісную ёй Ваську!»

Мы і цяпер трымаем сувязь з Алёнай, ведаем навіны адзін пра аднаго. Я не забываю балючую майму сэрцу дзяўчынку. Даведалася, што Алёна аддала Злату ў модны мадэльны дом, дзе з яснавокай малышачкі зрабілі «томную жанчыну», апранулі ў «вечерние наряды», пафарбавалі яркай касметыкай пад ляльку Барбі, навучылі пазіраць у пустату блазнавата-зазыўным позіркам і пусцілі хадзіць па подыюму «соблазнительной походкой». Каля пяцігадовай Златы ўжо круцілася на падыходзе да подыюму і трохгадовая Васіліса. Куды можа прывесці шлях па подыюму мілую дзяўчынку-разумніцу, тонкую душу?

Свет з'ехаў з катушак! Бацькі маленькіх дзяцей не бачаць, не разумець: на «самых высоких» узроўнях у свеце паступова і паслядоўна, хітрадумна прапагандуецца і ўзаконьваецца педафілія.

Калі я ўжо даўна працавала ў другім месцы, дайшла навіна ад Алёны: яны разышліся з Андрэем! Закахаўся ў маладую бухгалтарку іх прыватнага прадпрыемства...

Алёна, «як марыла некалі», зноў ссохла на шкілет, на ёй — модныя сукенкі, сучасныя прыкрасы, але ўсё гэта не схавала ўнутранай душэўнай хваробы: маркота, трывога, чарната завяліся ў трагічнай глыбіні яе вачэй.

— Ничего, у меня есть мужчина! Правда, пожилой, но очень спортивный, бывший офицер. Помогает делать ремонт. Сегодня с Василисой сидит.

Сёння няньчыць Васілісу, учора дапамагаў рабіць рамонт у новым доме, які нарэшце дабудавалі. Мне бачылася перспектыва Алёнінага «новага замужжа». Ці ў яго не хопіць цярпення паслухмяна выконваць Алёніны патрабаванні, ці сама Алёна адмовіцца ад яго недастаткова адпавядальнай «матэрыяльнай базы» і «спартыўнай формы». Алёна нервова піпчыла цыгарку за цыгаркай, чакаючы якогась тэлефоннага званка. Як шкада яе! Шкада дзяўчатак. Разумнічка Злата аказалася пакінутай сама на сябе. Нават той модны подыюм прыйшлося выкрасліць са «статьи финансирования» — грошы, адабраныя ў Андрэя па пунктах: бізнес, кватэры, дачы, аўтамабілі, — патрабавалі разумных, эканомных трат. Не запярэчыш, грошы ў гэтай сям'і заўсёды мелі адрасную крыніцу: Алёніна маці.

Не пазнала я сваёй «жалелкі-душылкі». Позірк Злаціных патухлых вачэй не стасаваўся з суперсучасным выглядам дзяўчынкі. Алёна, як і раней, старалася прыдбаць у свой гардэроб і шафы дачушак усё, што прапанавала навязлівая рэклама з экранаў тэлевізара, ролікаў інтэрнэта, глянцавых каталогаў і бігбордаў — у тым бачылася ёй набліжэнне сямейнага шчасця.

На новым месцы жыхарства Злата збіралася пераходзіць у трэці клас, Алёна паставіла перад сабой мэту аддаць яе ў блізкую гімназію з мастацкім ухілам, дзеля чаго і была арганізавана наша мімалётная сустрэча па «блиц- восполнению» некалі мной дадзеных Злаце навыкаў малявання, пакінутых і даўно забытых. Я ведала: тут наладжаны і звыклы штурмавы сямейны метад «блату» і «знаёмстваў» не спрацуе. Гэта зусім іншая крыніца, не тая, адкуль ліюцца няўлічаныя дзяржаўнай сістэмай народныя сродкі ў чыесьці прыватныя кішэні. Крыніца, на якую сёння паклала вока Алёна, невычэрпная, яе можна толькі папаўняць...



Фота Getty Images

# Камяню сёння стала няўлежна



Марыя БАРАВІК

***

*Любімы бор мой, дзе водар хвойны,*
*Тут і былі-жылі тата, мама...*
*І толькі войны, і толькі войны...*
*Жыву пакуль-што і я таксама...*
*Жыву напружана, дзе нікога...*
*І сёння з памяццю гавару —*
*Я завяршаю адкрыцце Бога*
*Не ў сне — на яве ў цяпер-пару...*

**28 лютага 2022 года**

## Сон на зары

*Сёння прысніўся мне сон, сябры:*
*Прадольная хата ляціць з гары,*
*Коціцца з трэскам; распаўся злепак...*
*А нехта кажа: «Брэсцкая крэпасць!».*
*А нехта кажа мне: «Рускі мір».*
*І позірк мой расцягнуўся ўшыр.*
*Усё мне ў сне выразна відаць,*
*А стан душы не магу перадаць...*
*Прачнулася. Бачу: шарэе змрок.*
*Да крыжа думка зрабіла крок —*
*Увесь той сон выразна відаць —*
*Дык стан душы не магу перадаць.*
*Праз сухасць вуснаў, мой Божа мілы...*
*Ці ўчуеш слова маё: «Памілуй!»?*

**1 сакавіка 2022 г.**

***

*І гэткае мне сніцца:*
*зайшла ў царкву памаліцца.*
*Так цёмна! Дзе прытуліцца?*
*Дзе стаць — зусім не відаць...*
*Трывога й трывога.*
*Дык бліснула прыхажанка:*
*распласталася ля парогу*
*ў дольным паклоне...*
*І думка мне звоніць,*
*што я забылася*
*(як ганебна!) —*
*не пакланілася,*
*як патрэбна.*
*Не праявілася*
*ў паклоне.*
*Зірнула прама:*
*у змроку тоне —*
*святар сядзіць,*
*на мой грэх глядзіць —*
*дык сэрца адкрылася:*
*«Выйду-вярнуся —*
*правільна пакланюся —*
*яго ж сыны*
*не мінуць вайны,*
*калі...».*

**2 сакавіка 2022 г.**

## Жылі-жылі...

*1*
*На зары, але сон быў нязорны:*
*З гарызонту ўсходняга чорна,*
*Дзе стыкуецца з небам гара,*
*Ланцугом насувалася раць...*
*Баравы жыццялёс мой спакойны*
*Адчуваў незакопаны страх —*
*Успамін сніўся мамін пра войны,*
*Што заўжды працавалі на прах...*

*2*
*Людзі-знічкі! Успышкі-людзі!*
*Чулі? Нам ведуны прарочылі:*
*«Будзе!..».*
*Чаму не сказалі, як зрабіць,*
*Каб не было? Не хацела быць?..*

*3*
*Жылі-жылі і не сталі роднымі,*
*Не сталі ў сэрцы свабоднымі —*
*Шчодрыць сілу жыцця*
*Ад сардэчнага пачуцця...*
*Жылі-жылі, вечнасць не здабылі.*
*Жылі-жылі — шчасця не здабылі —*
*Не ў Бога верылі...*

*4*
*Украіна ў хаўрусе збаўленчым!*
*Перад крыжам бацькоўскім я ўкленчу.*
*Ад Цябе, за Цябе й цэлы свет*
*Я слязой упаду ў Запавет...*
*Я ў малітву ручайна зліюся,*
*Украіна ў збаўленчым хаўрусе!*
*Украіна (сястрыца ў Ісусе)!*
*Ты найперш уратуй для народу*
*Сэнс святлейшы — ад Божай свабоды.*
*Узнімі ў добрых сэрцах трывогу!*
*Уратуй ты залежнасць — ад Бога!*
*Я ўсе словы душы паўтару:*
*Дарагая! Ратуй Беларусь!*

*5*
*Камяню сёння стала няўлежна.*
*Адратуй, Дух Святы, незалежнасць!*
*Боскі свет ужыццюй, Дух Святы —*
*І бязбожны штурхні з цемнаты!..*

**23 сакавіка 2022 г.**

## Наша пярэстасць

*Як не да месца наша пярэстасць,*
*як не да месца,*
*ў смутку пары, часу пары,*
*дзе кроў льецца!*
*Рознасцю гэткай нашай вясне*
*дык не сагрэцца,*
*дык не да месца, дык не да месца,*
*дзе — не да сэрца!*
*Як не да месца ноч у галовах,*
*збой у галовах!*
*Літары плачуць, гукі сігналяць —*
*думкі і словы...*

***

*Тут у бары мне трываць і трываць!*
*Ласкі галінчатых рук не чуваць...*
*Чую, цячэ аднадумная кроў —*
*дзесьці ў прачулай прасторы сяброў...*
*Тыя, хто побач, заўзята маўчаць,*
*нібы на вуснах, на сэрцах пячаць.*
*Мне ж праверацца ў сумленні — штодня,*
*Тут, дзе мой бор і яго цішыня.*

**5 сакавіка 2022 г.**

## Песня патрыёта Украіны

*«Я Радзіму люблю сваю проста так...»*

*Матыў змагання — адзін: Люблю!*
*Трымай мяне, мая Украіна!*
*Душу табою я прасвятлю —*
*Душа не будзе ў руінах...*
*Дык абаронай мацней пяю*
*У паднябеснай...*
*Ды не разбурыць душу маю*
*Ніяк агрэсар!*
*Адрыну пекла духам тваім,*
*Радзіма мілая-дарагая!*
*Каб не была душа на краі —*
*У цэнтры любоў спявае.*
*Крывёй змагання яна пяе —*
*Твой абаронца —*
*Бо усвятляецца ў дух яе*
*Свабоды сонца...*

**15 сакавіка 2022 г.**

***

*Душа! Цябе яшчэ завуць: «Душа»?*
*Ты ж — з глухатою нейкай у вушах.*
*Ты — з цемнатою нейкай у вачах.*
*Да віднасці парог пераступі!..*
*Ты помніш — Каін Авеля забіў?..*
*Ты чула? — Дзень крывавы наступіў!*

***

*Во і адкрыўся сэнс увачавідкі,*
*Дзе парахня — жыццёвыя нажыткі.*
*Дык застаецца толькі Дух Святла,*
*Каб з ім (рука з рукой) душа ішла.*

**19 сакавіка 2022 г.**

***

*Ты што, мой люты, чуў*
*у цішыні застылай,*
*Як бліснуў снег, і цуд душа схапіла?..*



Фота dreamstime.com

*Пасля ж мой думны свет увесь заныў,*
*Аж плоць мая адчулася мне ватняй.*
*...Дзе ж ёсць найвар'яцейшая з вар'ятні,*
*Чым гэтая во — з прагай да вайны?*

***

*Забіць аднаго, каб жыў другі?*
*Дзевяць забіць, каб жыў дзясяты?*
*Заўтра чакаць новай чаргі —*
*Бойні наступнай, каб быць праклятым?*
*Якi гэта вірус, якая хвароба?*
*У галаве танец мікробаў?*

**26 сакавіка 2022 г.**

***

*Вайна сучасная, дык гэта проста вынік...*
*Вайна сябе заўсёды пакідае.*
*Жыцця бяспека шлях не аглядае*
*У новай хуткай, небяспечнай плыні.*
*Вайна мярзотная — ёсць вынік,*
*ёсць паказ,*
*Як адкрыццё няпільнасці у нас,*
*Забыўнасці, нядбайнасці.*
*Дык вынік,*
*Які ніяк мы грэхам не адрынем.*
*Бо проста мы не разглядаем грэх,*
*Які зашыўся ў позірку з-пад стрэх...*
*То ў раўнадушшы ён, то ў слепаце —*
*у невідушчасці: дзе грэх? Як ён расце?*
*Вялікі ці малы? І чым захлыне?*
*«Абы вайны...». Дык — во: маланкай —*
*вынік!*

## Як мне маліцца?

*...І праяўляе агрэсар «геройства».*
*З неба — цывільнага люду забойства.*
*І разганяецца пагубна ўшыр...*
*Як жа мне, Божа, маліцца за мір?*
*Запаведзь чуе агрэсарскі ўзлом.*
*Дык ці дапусціць змірэння са злом?*
*Дык перамогі жадае над ім —*
*Во ўжо і край... у вар'ятні стаім.*
*Думкі нам трэба аднолькавай, злітнай,*
*У аб'яднанні, у з'яве — «Малітва»,*
*Духам і сэрцам у лучнасці з Богам,*
*Каб наступіла над злым Перамога.*
*Аўра патрэбна святая для слова —*
*Сэрца і думкі, і духу размовы.*
*Мабыць, успыхне малітва за мір —*
*Гэткі во, грэхам замучаны, мір —*
*Як супакоіцца выбух і жвір...*
*Жвір, што прымае ахвяры вайны...*
*Горад стаяў.*
*Дык абломкі адны...*

***

*Галінкі шэрыя (бярозы валасы,*
*Ад верхавінкі зрэзанай, да долу)*
*Шкумаціць вецер у прасторы голым,*
*Не падпускае мару да красы.*
*А дрэва ўсё ж раздвоенаю кронай*
*Сок адчувае для красы зялёнай.*
*Пад шчырасцю нябесная сваціла*
*Мужнее і мацнее жыццясілай.*
*Бач, вецер-звер — увесь каля зямлі.*
*Аблокі бы стаяць, і не сплылі...*
*Высока над зямлёю — дух-спакой,*
*Як момант раніцы шчаслівай над ракой!..*

**26 сакавіка 2022 г.**

***

*Што во са мною? Які тут залом?*
*Вершы — як птушкі!*
*А проза — вузлом.*
*Цяжкім вузлом на здуменні ляжыць —*
*На выжывальнай і сумнай мяжы.*
*Вершам бы сёння ў аблоках кружыць,*
*Думка да роднага слова бяжыць.*
*Вершы мае! Вы — малітвы мае.*
*Бог ува мне, і на зорцы ўстае.*
*Раюся, слухаю,ззяе душа.*
*Дух мой — пад небам.*
*Дых плоці ў вушах...*

**27 сакавіка 2022 г.**

## Успамін не хоча выгараць

*Зара. І зноў сунічная пара.*
*Бярэцца памяць між той паўтараць.*
*У ім быў колер долу, як зара;*
*Такі ўспамін не хоча выгараць.*
*Былое ёсць. Яно глядзіць з мяне...*
*...І сёння ты, як сонейка ў акне,*
*У ззянні сэрцам, дорыш колер мне,*
*Каб летуценнасць не знікала ў сне.*
*Бо незнікальнасць адмаўляе меру.*
*Бяру натхненне — верш пісаць і верыць...*

***

*...Дык не судзі, ты ж там не быў...*
*Не адкусіў, не з'еў вайны.*
*Бо як — вайна, бо як — вайна,*
*У вобразе якім яна?..*
*Вайна — не «Ах!»,*
*Цяпер — страх-жах.*
*І, як смяртэльная аблава, —*
*Героям — слава!*

## Паэт марыў ведаць...

**Памяці Анатоля ВЯРЦІНСКАГА**

*Смуткую сэрцам, думкамі горкімі;*
*Са мною — неба з ціхімі зоркамі.*
*Няма ўжо й адраса для ліста,*
*Мосціка ўсмешлівага, маста*
*Ад Вярцінскага да Баравік,*
*Дзе не разгульваў амаль чаравік —*
*Толькі во духу, праз роднае слова,*
*Рух адбываўся, ішла перамова...*
*Плача свабода небам і зоркамі,*
*Доламі сціхлымі, чахлымі ўзгоркамі,*
*Рэчкай жыцця, хуткацечна-адзінага,*
*Надта нявечнага, вечна любімага.*
*Колькі б не жыў, а жыццё толькі міг,*
*Хоць на сто тысяч, хоць на дваіх.*
*Нейкі няўведаны смутак паўстаў*
*З кожнага слова, верша, ліста...*
*Згадкамі плачу я і ўспамінамі,*
*Дык заклапочанымі Радзімаю,*
*І сёння мужнаю Украінаю —*
*Той нечуванай свету карцінаю...*
*Бо мне ж так ясна:*
*Паэт марыў ведаць,*
*Што будзе тут, за ягоным следам,*
*На белым свеце, які пакінуў...*
*Смуткую зоркавым успамінам.*
*Смуткую сэрцам, рыдаю ўнутрана*
*На спыне сэрца паэта мудрага.*

**21—22 красавіка 2022 г.**

# Чырвоныя гладыятары



Лявон ВАЛАСЮК

*Акуратней абыходзьцеся з думкамі — яны ствараюць рэальнасць...*

Была жнівеньская нядзеля высакоснага года. Года, нечаканага сваёй страшнай загадкавасцю каронавіруса...

Гуляў зыркімі промнямі сонечны дзень на сыходзе лета. Краіна жыла апошнімі неверагоднымі падзеямі: на фоне выбараў і пандэміі COVID-19 на ўздыме быў рух насельніцтва.

Не мінуў ён і стары памежны горад, які меў багатую гераічную славу ў мінулыя гістарычныя стагоддзі. Але, як кажуць, адшукаць месца для подзвігу нядоўга: было б толькі жаданне... А жадання хапала ў людзей дастаткова, асабліва ў маладых. Таму атмасфера ў горадзе была электрызавана і даведзена да моцнага накалу. Горад актыўна цікавіўся апошнімі падзеямі нечаканага, але такога прадбачнага жыцця, дзе кожны меў сваё асабістае месца, адведзенае лёсам...

...Міхась, сівабароды пенсіянер сталага ўжо веку (са школьных гадоў палюбіў чырвоныя шалікі, якімі карыстаўся з таго часу, калі аднойчы ў горадзе на адной з цэнтральных вуліц сустрэў мужчыну з чырвоным шалікам і вялікаю цёмнаю барадою. Як пазней даведаўся: то быў вядомы мастак, да таго ж — ягоны зямляк. Юнаку тады так спадабаўся чырвоны шалік на тым незвычайным чалавеку, што Міхась вырашыў насіць падобны), бліжэй да абеду, пераапрануўшыся ў блакітныя джынсы і светлую цішотку, выбраўся ў цэнтр горада прагуляцца, пагледзець на людзей, на тое, што дзеецца на цэнтральных вуліцах, а таксама набыць патрэбную рэч для гарода ў цэнтральным гандлёвым цэнтры, перагаварыць з майстрам па рамонце гадзіннікаў Яўгенам, якога даўно ведаў і лічыў сваім сябрам-земляком.

У гэты дзень з самага ранку, з Міхасём зноў адбылася незвычайная справа, а дакладней — з яго гадзіннікам: па дарозе на выбарчы ўчастак любімы гадзіннік на руцэ спачатку спыніў хаду, а потым пачаў паказваць час, які ўжо мінуў. Недзе на гадзіну час на гадзінніку спыніўся і адстаў ад сапраўднага. Як ні круціў стрэлкі, але гадзіннік упарціўся сумленна працаваць.

Да таго ж Міхасю найбольш хацелася акунуцца ў той людскі настрой, што панаваў у горадзе: пагладзець на гараджан, паслухаць размовы людзей, падыхаць навальнічным паветрам. Яму не хапала прасторы вялікага футбольнага стадыёна, дзе прывык бываць на кожнай хатняй гульні любімай гарадской каманды. А цэнтральная пешаходная вуліца старажытнага горада часам замяняла яму трыбуны любімага са школьных гадоў стадыёна, што месціўся на месцы былога, яшчэ з польскіх часоў нагулянага месца.

Міхасю адразу не спадабалася тое, што ў памяшканні члены і назіральнікі сядзелі без масак у ковідны час. Ён нават зрабіў заўвагу, але дарэмна, бо тыя знайшлі, што адказаць мужчыну. Вельмі душна ім усім было на той час у памяшканні. Вось з таго самага моманту і здарылася нешта неверагоднае і з Міхасёвым гадзіннікам. Гэта здзіўляла гараджаніна-пенсіянера, бо часам пазней рабілася нечаканы непрыемнасці: ці то спазненні на прагляд тэлеперадач, ці то спазненні на дзелавыя сустрэчы з даўнімі сябрамі, а то, бывала, прыходзіў у патрэбнае месца раней ці пазней на гадзіну. Да гэтага часу такое з гадзіннікам не здаралася ніколі, а тут стала насцярожваць, таму трэба было тэрмінова выпраўляць сітуацыю. Выходны дзень спрыяў праменаду паважанага чалавека.

На цэнтральнай пешаходнай вуліцы горада было шмат людзей. І не толькі таму, што стаяла цудоўнае надвор'е, прыўзняты настрой гараджан, якія павыходзілі са сваіх дамоў і кватэр з дзецьмі, каб добра правесці час у цэнтры ў выходны дзень, абмяняцца апошнімі навінамі са знаёмымі, сябрамі.

На падыходзе да цэнтральнага праспекта, не дабраўшыся да скрыжавання, Міхась пабачыў з правага боку на балконе другога паверха жылога дома свайго даўняга таварыша па інстытуце Андрэя Драчова...

— Заходзь сюды, да мяне!.. — выкрыкнуў Андрэй, паказваючы рукою напрамак руху. Дзверы ў дом выходзілі на вуліцу, хаця можна было зайсці і з двара, завярнуўшы за вугал будынка, з другой вуліцы.

— Зараз падымуся! — гучна адказаў Міхась, мяняючы пакуль свае планы на бліжэйшы час.

Яго зацікавіла нечаканая пляцоўка, з якой можна было назіраць падзеі жыцця ўзбуджаных гараджан у выходны дзень, калі агульны настрой людзей зашкальваў сваёй актыўнасцю і напружанасцю. Усё нагадвала святочнасць у горадзе ад таго, што людзі адчувалі сябе гаспадарамі. Такі стан цяжка было сабе ўявіць раней. Хіба што на святкаванні 1000-годдзя старажытнага горада, калі ўсе вуліцы цэнтра былі падобныя на паўнаводныя рэкі вясной.

Але раптам Міхась пабачыў, як невядомыя, якія выскачылі з правага боку вуліцы амаль перад ім, пачалі страляць гумовымі кулямі ў людзей, што выйшлі з суседняй, левай, вуліцы, у тых, хто стаяў на балконах дамоў і назіраў зверху за падзеямі. Асабліва ўразіў мужчыну крык жанчыны, якая стаяла на балконе другога паверха побач з Драчовым. Куля трапіла ёй у жывот, і адразу з'явілася крывая пляма на паверхні адзежы, а жанчына асела ўніз.

Міхася гэта моцна ўразіла і абурыла, нібыта і сам атрымаў некалькі куль у грудзі і ногі. Адразу падумалася: «Гэта ўжо вайна! Гладыятары-спартанцы патрэбныя на іх, «пілотаў», каб разагналі...».

У гэтай экстрэмальнай нечаканай сітуацыі мужчыне раптам прыпомнілася прачытаная яшчэ ў школьныя гады кніжка «Спартак», пасля чаго ён нават зрабіў цэлую серыю малюнкаў па тых падзеях, апісаных у рамане. Асобна алеем напісаў і партрэт галоўнага героя — Спартака — і падарыў каханай дзяўчыне-дзесяцікласніцы. А яшчэ раней, на пачатку дзявятага класа, на кляёнчатай вокладцы для дзённіка намаляваў алеем партрэт Спартака — гладыятара і кіраўніка паўстання рабоў у старажытным Рыме. І калі фарба добра высахла, стаў насіць у школу дзённік з той незвычайнай вокладкай, якая падабалася не толькі шматлікім аднакласнікам, але і некаторым настаўнікам, асабліва студэнткам-практыканткам, якія з'явіліся ўжо ў старэйшых класах і дапамагалі класным кіраўнікам у працы з вучнямі.

Дапоўніла гістарычны досвед кінастужка «300 спартанцаў», прагледзеная даўно, пасля заканчэння школы, са старэйшым братам Пятром у мясцовым, яшчэ даваеннага часу, кінатэатры «Мір».

Сядзелі тады ўдваіх на першым радзе, бо лепшых месцаў на той момант ужо не было: крыху спазніліся на сеанс... Дык было такое ўражанне падчас прагляду кінастужкі, нібыта самі гледачы спераду былі ўдзельнікамі тых гістарычных падзей, асабліва калі адбываліся баі...

Міхась адразу пабег да дзвярэй у дом да Андрэя, які ад стрэлаў напачатку схаваўся ў кватэру.

А ў гэты час з двара праз арку суседніх дамоў (куды ў час апошняй вайны заганялі незлічоную колькасць габрэяў, дзе і знаходзілася габрэйскае гета і дзе былі потым расстраляныя ахвяры вайны), амаль насупраць дома Драчова нечакана з'явіліся



Малюнак kartinkin.net

мужчыны, падобныя на старажытных вояў у чырвоных плашчах, паверх якіх былі апрануты баявыя даспехі часоў спартанцаў і гладыятараў. На галовах у вояў былі скураныя з металічным аздабленнем шаломы, якія закрывалі і большую частку твара, меліся толькі шчыліны для вачэй і носа. У руках з налакотнікамі былі бачныя светлага колеру бліскучыя мячы і круглыя шчыты. На нагах прысутнічалі наколеннікі для аховы важнага месца ног. Ну зусім як у гладыятараў старажытнага Рыма, альбо яны самі і з'явіліся раптам тут на дапамогу мірным гараджанам па адной толькі думцы Міхася.

Шарэнга за шарэнгай па пяць чалавек — яны выбягалі з вялікага двара, дзе ў мінулым годзе былі раскапаныя магілы расстраляных габрэяў, дзе гарадскія ўлады збіраліся будаваць жылы комплекс, праз скразны праход-арку і дапаўнялі шарэнгу за шарэнгай. І нарэшце гладыятары стварылі на вуліцы квадрат дзесяць на дзесяць вояў. Атрымалася сто чалавек гладыятараў-спартанцаў!.. Гэта было такой нечаканай з'явай, што людзі, якія знаходзіліся непадалёк, аслупянелі: тэатральнае відовішча-шоу ды і толькі. Але гэта было зусім не так: бразганне шчытоў і зброі ў нечаканай цішы вуліцы гучала злавесна-ваяўніча, так, што мурашы бегалі па скуры людзей. Нешта незвычайнае павінна было адбыцца вось-вось. І яно адбылося!..

А Міхась з Андрэем ажно здрыгануліся ад убачанага, стоячы на балконе. Яны ўжо выклікалі «хуткую дапамогу» і былі побач з параненай жанчынай-суседкай, якая да таго ж была доктарам гарадской цэнтральнай бальніцы. Параненую перанеслі ў машыну «хуткай»...

А на вуліцы роўным строем «квадрат» вояў у чырвоным адзенні рухаўся на нападнікаў у чорным з металічнымі прамавугольнымі шчытамі і ў шаломах з закрытымі тварамі. То было яшчэ тое відовішча!.. Гэта трэба было бачыць!.. Нечаканае жаданне Міхася здзейснілася!.. Але ён наконт гэтага змаўчаў: у такія хвіліны думаў толькі пра тых суайчыннікаў.

Раптам квадрат ператвараўся ў ромб, і чырвоныя гладыятары пабеглі ў накірунку чорнай шарэнгі ў глыбіню, разбіваючы яе на дзве часткі, а потым зноў перастроіліся ў квадрат, які пачаў выцясняць вайскоўцаў у розныя бакі. Губляючы металічныя прамавугольныя шчыты і дубіны, правая частка пабегла ў двор, што месціўся насупраць гандлёвага комплекса на рагу цэнтральных вуліц, дзе побач і адбывалася нечаканая падзея перад вачыма Міхася з Андрэем...

Увесь гэты час з балкона другога паверха было відаць, што «гладыятары» нібыта з'явіліся ў тонкай абалонцы паўсферы, якая блішчэла месцамі на сонцы, адбіваючы гарачыя промні апошніх дзён незвычайнага лета. Гэта было падобна і на галаграфію, бо адзінкі сілавікоў, якія адважыліся нешта рабіць у супрацьў сваімі дубінамі, атрымлівалі ў адказ дзейства, падобнае на электрычны разрад, якое адкідвала іх убок на брукаванку так, што тыя гублялі прытомнасць. А калі пачалі страляць у гладыятараў гумовымі кулямі, дык тыя адляталі па такой траекторыі, што з гукам траплялі ў саміх крыўдзіўцаў, нібы бумерангі. Гэта шакавала сілавікоў на пэўны час, за які гладыятары расправіліся з імі: дзве вуліцы былі ачышчаны ад чорных постацяў, а мірныя людзі — жыхары горада — толькі са здзіўленнем назіралі за падзеяй, фатаграфавалі і перагаворваліся між сабою, не ведаючы нават, што з гэтым рабіць надалей.

А далей трэба было назіраць за гладыятарамі, якія сваім «квадратам» пайшлі ўперад да другога скрыжавання вуліц. І адбылося так, што квадрат чырвоных гладыятараў трапіў у сярэдзіну чорнага квадрата, калі раскалоў адну паласу на дзве часткі. Гладыятары апынуліся на самым скрыжаванні вуліц, у цэнтры: чырвоны квадрат у цэнтры чорнага. Зверху гэта было яшчэ якое відовішча: геаметрыя мастака-авангардыста Малевіча адпачывала...

Чырвоны квадрат гладыятараў разбіўся на чатыры шарэнгі і адначасова рушыў у чатырох накірунках на чорныя шарэнгі, якія зусім не чакалі такога павароту падзей. Да таго ж ніякім чынам да чырвоных гладыятараў нельга было не толькі дакрануцца з-за нябачнай празрыстай абалонкі, але і скарыстаць газавыя балончыкі альбо гумовыя кулі. Нават шумавыя гранаты не ўздзейнічалі ніякім чынам на гладыятараў. І чорныя шарэнгі нарэшце не вытрымалі нечаканага націску з чатырох бакоў, пачалі адступаць, змешваліся і ўрэшце пабеглі. Нясьбіты страху займелі свой страх, больш моцны.

Гэтае дзейства прайшло так хутка, так нечакана, што людзі, якія назіралі з усіх бакоў, не ведалі нават, што рабіць далей... А чырвоныя шарэнгі гладыятараў зноў ператвараліся ў квадрат, які раптам знік так жа нечакана ў двары таго самага квартала, адкуль і з'явіўся.

Шарэнга за шарэнгай вояў у чырвоным траплялі ў напаўразбураны квартал, дзе мелася весціся будаўніцтва жылога квартала, і раптоўна знікалі, нібы правальваліся ў глыбокія равы, што засталіся пасля раскопу месца.

Уся містыка падзеі была ў тым, што цэлы расстраляных, якія перазахавалі ўлады, знаходзіліся да гэтага восемдзесят гадоў менавіта там, нібыта раней ніхто з прадстаўнікоў улады і не ведаў пра гэта. А пасля забароны будаўніцтва тое месца засталося бязлюдным за агароджай, праз якую было відаць толькі пустэчу. Але на гэтым месцы было паветра, было неба і сонца, ад чаго гараджанам не бачна было тое, што рабілася на іншым узроўні...

Людзі былі ў разгубленасці. Яны не ведалі, што рабіць далей.

Страх — сур'ёзная справа, а яшчэ больш — загадкавая невядомасць. Да таго ж усе падзеі адбыліся вельмі хутка і ў кароткі час. Пакінутым у паветры засталося і вечнае пытанне: што рабіць?..

А далей гараджане рушылі на цэнтральную плошчу, бліжэй да будынкаў адміністрацыі раёна, горада і вобласці, дзе адбыўся мітынг з выступленнем мэра горада. Пасля чаго ўжо пад вечар рушылі да цэнтральнага праспекта...

Народ адчуваў палёгку і некаторую перамогу, нібыта гэта застанецца на доўгі час дзякуючы містычным гладыятарам, якія невядомым чынам апынуліся ў патрэбны час у патрэбным месцы.

Такім выдаўся для мужчыны-пенсіянера і шматлікіх гараджан адзіны дзень — нядзеля — сярэдзіны гарачага жніўня высакоснага года.

Гадзіннік сівавалосага мужчыны-пенсіянера Міхася ў панядзелак зранку пачаў працаваць спраўна, але нядоўга...

# Горад маланак



Вечаслаў КАЗАКЕВІЧ

Я жыву ў горадзе маланак.

Турысты, уткнуўшы насы ў мапы і даведнікі, бадзяюцца па Токіа, Кіота, Нара і рэдка заглядваюць сюды. Упершыню прачнуўшыся на новым месцы, я пачуў шолах і замёр ад агіды: пацучынага колеру яшчарка з голай скурай застыла нада мной на стале. Не адводзячы ад яе вачэй, я намацаў на падлозе тапак і шпурнуў яго ў нежаданую госцю.

— Уяўляеце, — сказаў я ва ўніверсітэце, — у мяне ў кватэры яшчаркі пасяліліся!

— Добра! — радасна заўсміхаўся японскі прафесар. — Значыць, ваш дом экалагічна чысты.

Задуменна крочыў я па вуліцы, і раптам мая нага завісла ў паветры. Укормленая, метры паўтара ў даўжыню жоўтая змяя паўзла па асфальце. Я ледзь было не наступіў на яе! Няспешна, з годнасцю яна пераадолела тратуар і, нібы ў ножны, усунулася ў вузкую шчыліну між дамамі.

Неўзабаве адкрылася: горад маланак насяляе столькі звяроў, птушак, рыб, змей ды іншых стварэнняў, якія лётаюць, скачуць і поўзаюць, што колькасць іх не саступае насельніцтву горада, а разнастайнасцю абліччаў і звычак нашмат яго пераўзыходзіць.

Качкі і качары без боязі плёхаюцца ў вадзе ў самым цэнтры, каля старажытнага замка. Грузныя размашыстыя ястрабы чапляюцца за ліхтары. Сажалкі вымашчаны шэрымі панцырамі чарапахаў. Да каленяў у цякучым бляску і мігценні каналаў застылі бялюткія, кволыя, нібы выцінутыя з паперы чаплі з суvoраўскімі чубкамі на галаве. На набережнай, каля аўтаматаў з напоямі, згорбіўшыся, тырчаць панурыя аднаногія буслы. На рысавых палетках дзікія фазаны ў вішнёвых берэтах важна выгульваюць свае каштоўныя, з зялёным муаравым адлівам, хвасты.

— І ніхто іх не ловіць? — азірнуўшыся на рыпучы крык фазана, здзіўлена спытаўся рускі стажор.

Нават чорныя мядзведзі сюды могуць завалачыся. Нядаўна адзін з іх паспрачаўся з бабуляй, жыхаркай ускраіны, наконт змесціва яе лядоўні. І пару дзён па тэлевізары паказвалі паляўнічых з суровымі тварамі, абвешаных патранташамі, якія са стрэльбамі наперавес асцярожна краліся ланцугом па зарослым лесам схіле гары, з усіх бакоў разглядалі паламаныя галінкі, глыбокадумна нюхалі мядзведжы кал. Нарэшце яны нагналі мішку, трапна ўсыпілі яго, сцягнулі рамянямі, як валізу, і з трыумфам звезлі яго ад горада надалей у лясы.

Ды што там мядзведзі! Тут водзіцца нешта круцейшае. Японскі калега паехаў разам са мной купляць настольную лямпу і, заварочваючы на паркоўку, бадзёра абʼявіў па-руску: *«Магазин электротварей». Электротвари...* Падыходзячыя істоты для горада маланак!

У правінцыі больш прыкметна, наколькі асаблівыя ў японцаў адносіны да прыроды. Менш за ўсё яны звязаны з ходкімі «беражыце прыроду», «і звяроў, як братоў нашых меншых...». Ні апекай, ні заступніцтвам тут не патыхае.

Зачытваю студэнтам славутае выказванне Ламаносава пра рускую мову, на якой, як вядома, можна гаварыць і з ворагам, і з дáмамі, і з Богам, і наогул з кім заўгодна. «А з кім можна размаўляць на японскай?» — пытаю аўдыторыю. «З прыродай», — памарудзіўшы, адказвае адна студэнтка, і ўсе згодна матляюць галавой.

Памятаеце казачных герояў, што набывалі чароўную здольнасць разумець мову звяроў і птушак? А японцы наяве спадзяюцца, што прырода разумее японскую мову, іх саміх. Гэта зусім іншая ўстаноўка, іншы падыход да свету.

На семінары згадалі пра дзіцячыя мары. Я пакорліва падрыхтаваўся слухаць расповеды пра жаданне стаць прадавачкай кветак, лётчыкам, сцюардэсай... «Я хацела пасябраваць з вялікімі звярамі, — сарамліва прызнаецца адна ціхоня. — Хацела схаваць свой твар у грыве ільва!». «А я, калі быў маленькім, хацеў стаць жабкай, — падхоплівае іншы студэнт. — Напэўна, таму, што яны спяваюць сугучна дажджу», — задумліва тлумачыць ён.

Нечаканы працяг тэма атрымлівае пасля лекцыі пра аслоў Апулея, насы Гогаля, насякомых Кафкі, карацей, пра метамарфозы. «Калі б я мог, я б перакінуўся ў саву, — мройна кажа адзін студэнт і, у адказ на мой здзіўлены позірк, тлумачыць: — Каб убачыць сваю спіну на свае вочы». «А я хацела б ператварыцца ў гепарда і бегаць па саване!» — прызнаецца следам першая прыгажуня гуманітарнага факультэта. І я раптам бачу — яна напраўду падобная на гепарда: такая ж высокая, хударлявая, з даўжэзнымі нагамі.

Ператварэнне ў істоту іншай пароды ў еўрапейскай традыцыі зазвычай звязанае з вядзьмарскімі сурокамі, з тэатрам абсурда, што наганяе жах і агіду, у японцаў выклікае зусім іншую рэакцыю. І справа не проста ў будызме, а ў японскай душы, якая шчасліва захавала дзіцячую веру, што палёт у апярэнні савы захоплівае дух мацней, чым карʼера дырэктара самага буйнога банка. Дарэчы, адзін з дырэктароў Банка Японіі назірае за птушкамі.

Другакурсніца расказвае свае навіны. «Нядаўна са мной у машыне пачаў ездзіць цвыркун. Мне падабаецца, — лезе яна ў слоўнік, — яго цвырканне». «А дзе ён ездзіць, — забаўляючыся, пытаюся я. — На пярэднім сядзенні ці на заднім?». «На заднім», — цнатліва адказвае другакурсніца. «Вось і лета прыйшло», — думаю я.

Ёсць мноства гісторый пра тое, як вязні адзіночных камер заводзілі кранальнае сяброўства з павуком, палахлівай мышшу, з верабʼём, што прылятаў да крáтаў. Вось і японцы на сваіх выспах даўно набылі талент знаходзіць сяброў сярод падножных і паветраных стварэнняў. І каго яшчэ браць у таварышы замкнёным, затоеным японцам? Цвыркуны не падвядуць, цыкады не прагавораццa.

Мая аспірантка, падняўшыся ўвечары на свой паверх, замерла ў разгубленасці: на дзвярах яе кватэры сядзеў велізарны начны матылёк. Асцярожна аспірантка спусцілася на першы паверх і пазваніла ў кватэру знаёмага. Ён не адгукнуўся. Яна чакала яго да гадзіны ночы, час ад часу на дыбачках падымаючыся да сябе, каб праверыць, ці не зляцеў матылёк. Але той, здаецца, вырашыў начаваць на дзвярах. Нарэшце знаёмы вярнуўся і, акуратна махнуўшы газетай, адправіў матылька ў шлях.

Талент жыць у поўным суладдзі з прыродай спалучаецца ў японцаў з пашанай да яе. Наш Бог і святыя жывуць на нябёсах. У Японіі яны часткa скачуць пад нагамі. І яшчэ ў японцах цудоўным чынам захаваўся старажытны містычны жах перад асобнымі прадстаўнікамі прыроды, незваротна страчаны намі.

Даўно не шпурляю я пантофляў у яшчарку, што ўскараскваецца на кампʼютар, і ў зялёнага вусеня, які выглядвае з вентылятара. А калі да мяне ў кабінет нечакана ўрываецца шматкаліберная гучная аса, я замест таго, каб прыкончыць яе тоўстым навуковым часопісам, шырэй адчыняю акно і з праклёнамі ўгаворваю яе пакінуць мяне ў спакоі.

Нядаўна, калі я ішоў з кампуса, грузная глянцавая варона, што сядзела на слупе, гучна крыкнула мне «Хэло!». На японскі манер гэта прагучала як «Харо!». Я не паверыў сваім вушам. «Харо»! — выразна паўтарыла варона. Вось ужо птушкі пачалі мяне вітаць. Хутчэй бы яны сталі мяне разумець!

«Што гэта? — спытаўся я ў першакурсніка, убачыўшы ўдалечыні грувасткія карпусы. «Вялікі завод, які робіць... — па-руску адказаў ён і, не прыгадаўшы патрэбнага слова, паказаў, пачырванеўшы, на прычыннае месца. «Бялізну?» «Не», — яшчэ больш пачырванеў студэнт і адчайна патузаў маланку на джынсах.

Чытач, правер маланку на штанах або спадніцы. І калі на язычку маланкі ты знойдзеш літары ҮКК, ведай, што яна з горада, дзе я жыву. Больш за дзевяноста адсоткаў усіх маланак свету выпускаецца тут, у стракацінай, буслінай, мядзведжай Таяма.

# Евангельскія матывы



Павел КАСПЯРОВІЧ

## Саламея

*...у дзень нараджэння Ірада танцавала*
*дачка Ірадыяды перад гасцямі*
*і дагадзіла Іраду.*
*Таму ён з клятваю абяцаў ёй даць,*
*чаго б яна ні папрасіла.*
*А яна, падбухтораная маці сваёю,*
*сказала: дай мне тут на блюдзе галаву*
*Іаана Хрысціцеля... (Мф. 14, 6-8)*

*Нішто так не раніць, як здрада*
*Ці з подласцю кампраміс.*
*І вось ужо Ірадыяда*
*Дачку просіць выйсці «на біс».*

*Цар Ірад, дурны ад распусты,*
*Няўрымсліва хваліць яе.*
*І шэпчуць дзявочыя вусны:*
*«Няхай цар прарока забʼе?!».*

*Па слову злачыннай улады*
*Спяшаецца ў вязніцу кат:*
*Заўсёды ў нас знойдзецца здраднік,*
*Каб выканаць дзікі загад.*

*І сэрца ад болю дранцвее,*
*Калі азірнешся вакол —*
*Айчыны маёй Саламеі*
*Зноў крочаць на страшны танцпол...*

## Халуйскі марш

*Пырскаў слінай разʼюшаны Ірад*
*На збялелых ад страху вяльмож,*
*Як выносіў свой дʼябальскі вырак:*
*Немаўлят віфлеемскіх — пад нож!*

*І маўчала пакорная світа —*
*Халуям так хацелася жыць.*
*І няхай будзе процьма забітых,*
*Не сваіх жа дзяцей, а чужых.*

*У халуйскіх сынкоў гувернанткі*
*Падмываюць ім дупы штодзень.*
*Не пачуюць яны, калі танкі*
*Накіруюць на пляц Цяньаньмэнь.*

*У халуйскіх дачок з жаніхамі*
*Не бывае ніколі няўдач.*
*Ля Бутыркі глухімі начамі*
*Ім каханых сваіх не чакаць.*

*У халуйскіх дзяцей столькі гора*
*І нялёгкіх жыццёвых пакут:*
*На якое такое ім мора*
*На канікулах выбраць маршрут.*

*Яны сцерпяць любога тырана,*
*Будзь ён самы бязлітасны кат.*
*І спяюць яму хорам: «Асанна!!!»*
*«Алілуя!!!»*
*«Нех жые сто лят!!!».*

***

*...Зноў зіма, надыходзяць Каляды,*
*Мы са светлай надзеяй жывём,*
*Што забудзем злачынствы і здрады,*
*І ўсё з новай старонкі пачнём.*
*На ялінках запалім гірлянды,*
*І «Хрыстос нарадзіўся» спяём.*
*Нарадзіўся Хрыстос!*
*Нарадзіўся Хрыстос!*
*І закружыць нас шал маскараду,*
*Шоргат строяў і бляск дыядэм...*
*Але толькі дасць Ірад каманду —*
*Мы крывёю зальём Віфлеем!*

## Цар Ірад

*Са зброяй у дзікім прыпадку*
*Цар Ірад шукае: адкуль*
*Крычаць уначы немаўляткі*
*І чуюцца стогны матуль?!.*

*Там зноўку бунтуе «народзец»,*
*Крычыць: мы — адвеку народ!*
*І марыць аб нейкай свабодзе,*
*Няўжо няма іншых турбот?*

*Вось нехта заплескаў у ладкі,*
*На пляцы змяніўся патруль...*
*Не трэба, прашу, немаўлятак*
*І стогнаў гаротных матуль!*

*Адзін у пакутах варʼята*
*Цар чуе, як шэпча Гасподзь:*
*«Ніхто не пазбегне расплаты.*
*Твой час завяршыўся, сыходзь!»*

## Verum est amarum (Горыч ісціны)

*...на Маісеевым пасадзе селі*
*кніжнікі і фарысеі.*
*Дык вось, усё, што яны кажуць вам*
*захоўваць, захоўвайце і рабіце; а паводле*
*ўчынкаў іхніх не рабіце... (Мф. 23, 2-3)*

*Аднойчы пасярод зімы*
*Табе сумленне скажа зранку:*
*Што трэба дачытаць псалмы,*
*Каб выканаць зварот экзарха.*

*Ты возьмеш пыльны свой псалтыр*
*І станеш мармытаць кафізмы,*
*Са светлай думкай: Мы — за мір*
*І супраць гвалту з экстрэмізмам...*

## Зварот Патрыцыя да Кесара (Паводле Іосіфа Бродскага)

*Я веру, як моцна не хочацца*
*Прызнацца Свяцейшай Высокасці,*
*Што Вы лёгкім ранішнім росчыркам*
*Прымножылі царства нябожчыкаў —*
*Падчас страшнай спецаперацыі*
*Мы страцілі чвэрць нашай нацыі.*
*І толькі сляпому ці цыніку*
*Не бачныя гэткія вынікі.*
*Пакуль мы шыкуем у золаце,*
*Правінцыя чэзне ад голаду.*
*Але неўзабаве над плошчамі*
*Узнімецца полымя вогнішчаў.*
*І стане апошняй пакутаю*
*На выбар Вам — шклянка з атрутаю,*
*Альбо ў засакрэчаным хораме*
*Пусціць сабе кулю ад сораму.*



Фота А.А.

# Колеры вясёлкі



Ганна ЯНКУТА

### Калыханка

*Ноч вяртаецца дахаты,*
*дню патрэбны адпачынак,*
*спаць кладуцца хлапчаняты,*
*сны імчацца да дзяўчынак.*
*Чуеш — ціха крочыць хтосьці,*
*сон з табой спаткацца хоча.*
*Ты яго пакліч у госці,*
*ды спярша заплюшчы вочы.*

*Цуды спяшаюць да дзетак у ложку,*
*светлыя цуды і смешныя трошку.*
*Сны пад падушкай,*
*сонныя вочкі.*
*Дабранач, дачушкі!*
*Дабранач, сыночкі!*

*Спяць чароўныя краіны,*
*горы, джунглі і палацы,*
*мы таксама спаць павінны,*
*каб пасля туды дабрацца.*
*Заўтра нас сустрэнуць дзівы,*
*шмат вясёлых нечаканак,*
*будзе новы дзень шчаслівы,*
*хай хутчэй наступіць ранак!*

*Цуды спяшаюць да дзетак у ложку,*
*светлыя цуды і смешныя трошку.*
*Сны пад падушкай,*
*сонныя вочкі.*
*Дабранач, дачушкі!*
*Дабранач, сыночкі!*

## ВОЖЫКАВЫЯ ВЕРШЫ
***(якія трапілі або не трапілі ў мульт-серыял «Блізняты-важаняты»)***

### Доўгая лічылка для хованак

*Раз — у шафе хвост захрас,*
*два — знікае галава,*
*тры — калючкі прыбяры:*
*бачу я іх угары.*
*Чатыры-пяць — вушы тырчаць!*
*Шэсць-сем — усюды зірнем!*
*Восем-дзевяць — і канец,*
*хто схаваўся — маладзец!*
*Я дайшла да дзесяці*
*і хачу цябе знайсці!*

### Кароткая лічылка для хованак

*Кот хаваецца за плот,*
*мышы — шусь да норак,*
*а шчанюк, наадварот,*
*выбег на падворак.*
*Гусь забралася ў кусты.*
*Выбягай — шукаеш ты!*

### Гарэзлівая песня пра вясёлку

*Мы скачам па чырвоным:*
*Буль! Плюх!*
*Мы скачам па аранжавым:*
*Шлёп! Бу-бух!*
*Па жоўтым разам скачам:*
*Захлопаем зямлю!*
*А потым — па зялёным:*
*Гарэзіць я люблю!*

*Мы скачам па блакітным:*
*Хлоп! А-яй!*
*Па сінім дружна скачам:*
*Не пырскай! Не штурхай!*
*Пасля — па фіялетавым:*
*Глядзі, які салют!*
*Вясёлка — гэта казка,*
*вясёлка — гэта цуд!*

### Задуменная песня пра вясёлку

*Вясёлка — як палітра мастака,*
*у небе каляровая рака.*
*Вандруем мы па колерах — чырвоны,*
*аранжавы, і жоўты, і зялёны.*

*Вясёлка — гэта мост у яркі край.*
*Пра казку марыш? У яе ныра́й!*
*Блакітныя нас залюляюць плыні,*
*але чакае іншы колер — сіні.*

*Вясёлкай дожджык упрыгожыў лес,*
*вясёлы вожык на яе залез.*
*Апошні — фіялетавы ручай.*
*Цяпер іх па парадку абвяшчай!*

### Колеры вясёлкі
***(Для маленькіх дзяцей)***

*Чары абуджаюць жабак, змей:*
*беражыцеся сапраўдных фей!*

### Колеры вясёлкі
***(Для вялікіх дзяцей)***

*Чэрці*
*ахвочыя жэрці:*
*з'елі*
*бочку салёнай фарэлі.*

### Навагодні вальс

*Лес — у колерах зімы,*
*з неба сыплюцца сняжынкі.*
*Хутка Новы год, і мы*
*сёння разам ля ялінкі.*
*Мішура і шарыкі,*
*цацкі і цукеркі,*
*зіхацяць ліхтарыкі,*
*шамацяць паперкі.*

*Новы год спаўняе мары,*
*загадай сваё жаданне.*
*Вер у цуды! Вер у чары!*
*Свет дакладна лепшым стане.*

*Стане лепшым кожны з нас,*
*падабрэюць ліхадзеі.*
*Новы год — шчаслівы час,*
*ён усім дае надзею.*
*Свет, ільдамі скуты,*
*мроіць аб вясне.*
*Снежань, студзень, люты —*
*і зіма міне!*

*Новы год спаўняе мары,*
*загадай сваё жаданне.*
*Вер у цуды! Вер у чары!*
*Свет дакладна лепшым стане.*

### Год

*Студзень — гэта значыць, сцюжа,*
*Люты любіць снегавеі.*
*Сакавік расплюхаў лужы,*
*Красавік — вясна квітнее.*

*Травень сее ў лесе травы,*
*Зелянее ўсё на свеце.*
*Чэрвень — яркі і ласкавы.*
*Ліпень — значыць, ліпы ў квеце.*

*Жнівень — жоўтыя палеткі,*
*Вожыкі, не лезьце ў жыта!*
*Верасень збірае кветкі —*
*Верас, водарам наліты.*

*Коцішча наш год кудысьці,*
*бо ідзе кастрычнік сцежкай,*
*Лістапад страсае лісце,*
*снежань кідаецца снежкай.*

## ПЕРАКЛАДЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Алфрэд Эдвард ХАЎСМЭН

### Афрыканскі леў

*О кепскія дзеці, як любіць вас леў,*
*сустрэць вас не траціць надзей!*
*Аднак справядліва ніколі не еў*
*ён добрых нясмачных дзяцей.*



Фота lialka.by

*Калі ж і адкусіць кавалак які,*
*то крывіць іскласты свой рот*
*і з рыкам імчыць у пясках напрасткі*
*на поўнач, на захад, на ўсход.*

*Таму не збягае такое дзіцё,*
*убачыўшы льва на пяску,*
*бо ведае: страціць яно не жыццё,*
*а толькі нагу ці руку.*

**Пераклад з англійскай.**

Эжэн МАРЭ

### Сукенка з павуцінкі

*Аднойчы фея з павуціны*
*наткала тонкае тканіны,*
*пасля, абраўшы модны крой,*
*пашыла беласнежны строй.*

*Не разбіраючыся ў модах,*
*узнёс раптоўны ветру подых*
*яе высока на зямлёй —*
*сказала фея толькі: «Ой!».*

*Глядзелі сумныя сяброўкі,*
*што выйдзе з гэтае вандроўкі,*
*пакуль не зніклі між аблок*
*сукенка й фея-матылёк.*

*Калі абноўку з павуціны*
*здабудзеш ты на імяніны,*
*пра асцярожнасць памятай*
*і за аблокі не лятай!*

**Пераклад з афрыкаанс.**

Юльян ТУВІМ

### Танец

*Стол, навёўшы бляск і глянец,*
*запрасіў вядро на танец.*
*Кубак з шафы — на падлогу:*
*«Я танцую! Мне — дарогу!»*

*А за кубкам скача шклянка —*
*вось дык слаўная гулянка!*
*А пліта схапіла шчотку*
*і адпальвае чачотку!*

*Венік журыцца ў куце:*
*ён жа танец размяце:*
*«Я, калі ўжо разыдуся,*
*ўсіх развею ў завірусе!».*

*Кружаць яйкі ў маянэзе,*
*вось з кута і венік лезе:*
*не маркоціцца ж да ночы —*
*скача так, што пыл у вочы!*

**Пераклад з польскай.**

Ежы ФІЦОЎСКІ

### Хвалявака

*Крыся нешта ўсё малюе.*
*— Што за дзіўны звер! Сабака?*
*Гном? — пытаю я малую.*
*— Гэта, татка, Хвалявака!*

*— Ну, а дзе яго прыстанак?*
*— Пад карэннем мае хатку.*
*— Што з'ядае на сняданак?*
*— Тры суніцы і зярнятка.*

*— Можа, ён бы з'еў цукерак,*
*Калі хтосьці пачастуе?*
*— Лес — не шафа, не куфэрак,*
*Дзе знайсці цукерку тую?*

*—Хутка з крамы мама прыйдзе,*
*Прынясе яму смятаны.*
*— Толькі ты яго не крыўдзі,*
*Бо ён вельмі ўсхваляваны!*

*— А калі яго я сушкай*
*Пачастую ці пячэннем?*
*— Дасць пачухаць ён за вушкам,*
*Піскне ад задавальнення.*

*— Што за мілая істота!*
*— Вельмі мілая, вядома:*
*Многіх вывеў ён з балота,*
*Сцежку паказаў да дома.*

*— Як падма́нуць небараку,*
*Ці пачне тады кусацца?*
*— Не, кудлаты Хвалявака*
*Проста будзе хвалявацца.*

*— А як прыйдзе халадэча,*
*І настане час зімовы?*
*— Пойдзе ў іншы лес малеча,*
*Знойдзе там дамок часовы.*

*— А калі залева хлыне,*
*Будзе ў лесе — як у душы?*
*— Ён усё адразу кіне*
*І памые нос і вушы.*

*— Дык скажы, ці ён існуе,*
*Гэты Хвалявака мілы?*
*— Так! Цябе не падману я!*
*Я ж сама яго стварыла!*

**Пераклад з польскай.**

# Попыт на раманы

У Расіі назіраецца цікавая тэндэнцыя: вырас попыт на мастацкую літаратуру і кнігі па гісторыі і псіхалогіі.

Гэта зафіксаваў шэраг вядучых выдавецтваў і кніжных рэсурсаў. А вось цікавасць да кніг на тэму бізнеса і фінансаў знізілася. Дырэктарка па стратэгічных камунікацыях Выдавецкай групы «Эксма-АСТ» пацвердзіла, што, сапраўды, такую тэндэнцыю зафіксаваў Усерасійскі кніжны рэйтынг за першае паўгоддзе 2022 года.

Жыхары Расіі лічаць за лепшае чытаць мастацкую літаратуру і коміксы. Апошнія пазіцыі тычацца ў асноўным маладых людзей, якія ўсё часцей выбіраюць папяровыя кнігі, а не электронныя.

# Кніжная вайна

Стала вядома, што ў некаторых рэгіёнах Харкаўшчыны, падкантрольных расійскаму войску, вырашылі пазбавіцца ад украінскіх кніг. Там рыхтуюцца знішчаць украінскія кнігі, нават казкі ды ілюстрацыйныя дзіцячыя выданні з мінімумам тэксту. Пра гэта ў Telegram паведаміла, напрыклад, прэс-служба Борівскага пасялковага савета: «На акупаванай тэрыторыі працягваецца барацьба з украінскімі падручнікамі і літаратурай. Вядома, што школьныя бібліятэкі суседняга Куп'янскага раёна ўжо атрымалі загад ад новых уладаў скласці рэестр усіх наяўных у іх кніг, выдадзеных з 1991 года, і ўтылізаваць іх». Пры гэтым дадаецца, што ў школы Борівшчыны абяцаюць прывезці расійскія праграмы і падручнікі з Краснадарскага краю Расійскай Федэрацыі.



Фота livelib.ru

А ў некаторых раёнах Украіны расійскія кнігі збіраюць на макулатуру, а атрыманыя сродкі перададуць Узброеным сілам краіны. Так, здаваць расійскія кнігі заклікаюць жыхароў Прылук Чарнігаўскай вобласці. Як вядома, баявыя дзеянні ў Чарнігаўскай вобласці працягваліся ў лютым-сакавіку. У красавіку Узброеныя Сілы Украіны вызвалілі рэгіён ад расійскіх вайскоўцаў.

«З ініцыятывы аддзела культуры і турызму гарвыканкама сумесна з гарадскімі ўстановамі культуры мы распачынаем дабрачынную акцыю «Варожая літаратура на макулатуру, а грошы — на Узброеныя Сілы Украіны», — гаворыцца ў допісе аддзела культуры і турызма Прылуцкай гарадской рады. У ім адзначаецца, што кожны можа стаць удзельнікам працэсу дэрусіфікацыі і ўнесці свой уклад у перамогу. Усіх ахвотных заклікаюць прыносіць у цэнтры збору літаратуры кнігі, якія прапагандуюць расійскую ідэалогію ці адкрыта падтрымліваюць вайсковую спецаперацыю супраць Украіны. «Кнігі будуць адпраўленыя на перапрацоўку, а атрыманыя сродкі будуць накіраваны на закупку неабходнай тэхнікі для Узброеных Сіл», — тлумачаць ініцыятары акцыі.

# Любімыя кнігі вядомых палітыкаў

Якія літаратурныя перавагі ўплывовых сусветных лідэраў?

Чытанне — адзін з самых любімых заняткаў лідэра Кітайскай Народнай Рэспублікі Сі Цзіньпіна. Мясцовыя СМІ пісалі, што Сі любіць як шэдэўры кітайскай літаратуры, так і замежную класіку: творы рускіх, французскіх, нямецкіх пісьменнікаў. Самай любімай кнігай Сі называюць старажытную біяграфію кітайскага генерала Юэ Фэя, які праводзіў бліскучыя кампаніі супраць качэўнікаў, а потым загінуў ад рук набліжанага чыноўніка. Гэтую кнігу будучаму палітыку падарыла яго маці. Наогул, Сі Цзіньпін чытаў вельмі шмат з самага юнага ўзросту, і дзеля цікавай кнігі быў гатовы на многае. Напрыклад, каб атрымаць «Фаўста» Гётэ, ён прайшоў пешшу 45 кіламетраў.



Французскі прэзідэнт Эмануэль Макрон — не толькі аматар літаратуры. Ён і сам спрабаваў сябе ў якасці аўтара. Любоў да чытання заахвочвае жонка Брыджыт, якая была яго настаўніцай. Сярод любімых кніг Макрона — творы французскай класікі. У прыватнасці, гэта Гюстаў Флабэр і яго «Мадам Бавары», «Чырвонае і чорнае» Фрэдэрыка Стэндаля і кнігі Андрэ Жыда. З рускіх аўтараў французскі лідэр адзначаў Тургенева і Бабеля, якія, паводле яго слоў, любілі французскую мову.

Падчас передвыбарнай гонкі амерыканскі прэзідэнт Джо Байдэн прызнаваўся, што любіць раман Джэймса Джойса «Уліс», аднак скептыкі называлі гэтыя заявы піярам. Паведамлялася, што Байдэн нібыта хоча стварыць вобраз чалавека, які ганарыцца сваімі каранямі (яго сям'я паходзіць з Ірландыі). Зрэшты, іншыя літаратурныя перавагі Байдэна мала ў каго вы́клікалі сумневы. Напрыклад, прэзідэнт ЗША часта спасылаўся ў сваіх выступах на любімы для многіх амерыканцаў твор Марка Твэна «Прыгоды Тома Сойера».

А вось у былога амерыканскага прэзідэнта Дональда Трампа на першым месцы — раман нямецкага пісьменніка Рэмарка «На заходнім фронце без перамен», які апісвае жахі Першай сусветнай вайны. Таксама Трамп адзначаў, што любіць чытаць Біблію — палітык лічыць яе лепшай на свеце кнігай. У ТОП-3 паводле яго версіі ўваходзіць яго ўласны тэкст «Мастацтва заключаць здзелкі», выдадзены ў 1987 годзе. У ім Трамп дае парады пачаткоўцам-прадпрымальнікам.

Расійскі кіраўнік Уладзімір Пуцін любіць выкарыстоўваць у сваіх выступах вострыя цытаты з літаратурных твораў. У асабістай бібліятэцы Пуціна можна сустрэць самыя разнастайныя кнігі. Першым чынам, паводле яго прэс-службы, ён аддае перавагу рускай класічнай літаратуры. Пуцін прызнаваўся, што раман «Вайна і мір» Льва Талстога аказаў на яго найбольшы ўплыў. Таксама ён часта звяртаецца да Лермантава, якога называў апазіцыянерам, але пры гэтым надзвычай адважным чалавекам, гатовым аддаць жыццё за інтарэсы Радзімы. З друку вядома, што расійскі кіраўнік любіць рускія народныя казкі і нямецкую паэзію Гейне і Гётэ.

Былы канцлер ФРГ Ангела Меркель таксама аддае перавагу Біблії, якая, паводле слоў Меркель, аказала ўплыў на ўсё яе жыццё. Таксама на яе зрабіла вялікае ўражанне кніга Юргена Астэрхамеля «Трансфармацыя свету. Гісторыя XIX стагоддзя». З рускіх пісьменнікаў Ангела Меркель больш за ўсіх паважае Фёдара Дастаеўскага.

# Прыдумана пісьменнікамі

У свеце існуе шэраг рэчаў, якія ўпершыню былі апісаны ў кнігах, — створаны-выдуманы пісьменнікамі, і толькі потым з'явіліся ў рэальным жыцці. Вось пералік найбольш вядомай дзясяткі «літаратурных адкрыццяў».

**Падводная лодка.**

У 1869 годзе ў кнізе «20 000 лье пад вадой» Жуль Верн апісаў новы тып транспартнага сродка — падводную лодку. У тыя часы ідэя «глыбіннага карабля» толькі зараджалася, і яго «Наўтылус» стаў увасабленнем тэхнічнага прагрэсу. Гэтае імя здабыло папулярнасць, а Верна сталі зваць «бацькам падводных лодак». І цяпер у гонар «Наўтылуса» называюць кампутары, электронныя прыборы, касмічныя апараты, а таксама рок-гурты, рэстараны, гатэлі, спартовыя клубы і інш.

Сярод прадказанняў Жуля Верна (антыўтопія «Парыж у XX стагоддзі») ёсць хмарачосы, вулічнае цэнтралізаванае асвятленне, беспілотныя аўтамабілі, якія працуюць на вадародных рухавіках, і нават складаныя вылічальныя машыны. Акрамя таго, там жа ёсць указанні на тое, што будзе працаваць нейкая электратэлеграфная сетка, якая адначасова і інтэрнэт, і тэлефон. Той факт, што ў хуткім часе чалавецтва можа перасесці за руль аўто з вадароднымі рухавікамі, ужо не здаецца нерэальным. Цалкам магчыма, што ў хуткім часе ва ўмовах энергетычнага крызісу менавіта гэтае паліва выцесніць усе іншыя, звыклыя нам.

**Дэдуктыўны і іншыя метады раскрыцця злачынстваў.**

У сваіх апавяданнях пра Шэрлака Холмса Артур Конан Дойль апісаў многія метады крыміналістыкі, якія на час публікацыі кнігі яшчэ былі невядомыя паліцыі. Напрыклад, такія метады вышуку, як збор недапалкаў і попелу цыгарэт, ідэнтыфікацыя пішучых машынак і разглядванне ў лупу слядоў на месцы здарэння. У далейшым паліцыянты ўзялі на ўзбраенне і іншыя метады «вялікага» Холмса.



Калаж multiurok.ru

**Схема «адмывання грошай».**

Такая геніяльная злачынная схема была ўпершыню ўжыта ў «Мёртвых душах» Мікалая Гогаля. Галоўны герой паэмы Павел Іванавіч Чычыкаў, скупляючы «не існыя па факце» душы, але зафіксаваныя на паперы, заклаў аснову сучаснай практыцы «левых» замоў падрадным фірмам, калі па той жа схеме аплата робіцца за працу, выкананую толькі па дакументах.

**Ідэя звышчалавека.**

Яе ў творы «Так казаў Заратустра» пазначыў нямецкі філосаф Фрыдрых Ніцшэ. Паводле гэтай ідэі, людзі былі не «вянком тварэння», а толькі правадырамі да вышэйшай расы звышлюдзей. Гэтая думка пазней актыўна выкарыстоўвалася Адольфам Гітлерам, які стварыў фашысцкую філасофію, паводле якой падобнай вышэйшай расай з'яўлялася арыйская.

**Атамная бомба.**

Аўтарства дадзенага словазлучэння належыць ангельскаму пісьменніку-фантасту Герберту Уэлсу. Упершыню яно з'явілася на старонках яго навукова-фантастычнага рамана «Вызвалены свет», апублікаванага ў 1914 годзе. І гэта — за дзвацаць гадоў да таго, як у Французскай акадэміі навук распавялі пра атрыманне радыяцыйных атамаў фосфару. Досвед лёг у аснову вынаходства атамнай бомбы, упершыню ўжытай напрыканцы Другой сусветнай вайны ў 1945 годзе. Да таго ж, герой кнігі Уэлса здзяйсняе радыёактыўны распад цяжкіх элементаў у часціцы вісмута. Паводле сюжэта гэта адбывалася ў 1933 годзе, за 12 гадоў да Хірасімы і Нагасакі.

**Мабільны тэлефон і слухаўкі-«кропелькі».**

Цяпер яны (навушнікі) з'яўляюцца паўсядзённым прадметам жыцця любога падлетка, а таксама і іхніх бацькоў. Слухаўкі-«кропелькі» ў выглядзе ідэі з'явіліся ў вядомай кнізе фантаста Рэя Брэдберы «451 градус па Фарэнгейце». У раздзеле згаданага рамана «Агмень і саламандра» пісьменнік так апісаў сучасны гаджэт: «У вушах у яе шчыльна ўсталёны мініяцюрныя «ракавінкі», малюсенькія, з напарстак, радыёпрымачы-ўтулкі, і электронны акіян гукаў — музыка і галасы, музыка і галасы — хвалямі абмывае берагі яе бяссоннага мозга». Раман быў напісаны ў 1950 годзе, а апублікаваны ў 1953-м; да «галаўных мікрафонаў» нашага часу было вельмі далёка. Ну а магчымасць гаварыць па тэлефоне ў грамадскім транспарце першым з беларусаў (і не толькі) убачылася Рыгору Барадуліну — калі той спазняўся і ў кватэры падымаў слухаўку гарадскога тэлефана, дык нярэдка запэўніваў: «Хутка буду. Я ўжо з тралейбуса тэлефаную…». А быў толькі пачатак «безмабільных» 1960-х…

**Байцоўскі клуб.**

У знакамітым «Байцоўскім клубе» Чака Паланіка аднайменная арганізацыя становіцца месцам, дзе з дапамогай сумленнай бойкі людзі могуць выплюхнуць свае эмоцыі. Ідэя падобнага клуба аказалася настолькі запатрабаванай, што пасля экранізацыі твора ў многіх гарадах свету з'явіліся яго падпольныя аналагі. Нямала з іх існуе і сёння.

**Рэкламная гульня слоў.**

Віктар Пялевін у «Generation П» упершыню супрацьпаставіў рускі квас папулярнай кока-коле, у выніку чаго нарадзіўся новы брэнд «Не-кола» са слоганам «Не-кола для Николы!». Затым такая марка квасу сапраўды з'явілася на прылаўках крам. А яшчэ раней падобным чынам «літаратурны брэнд» Аляксея Дударава «Белыя росы» (згадайма вядомы фільм па сцэнарыю беларускага аўтара) пачаў «пераліваца» алкагольнай прадукцыяй у бутэлькі.

**«Шахматная сістэма».**

У рамане «Поўдзень, XXII стагоддзе» братоў Стругацкіх згадваецца метад, які дазваляў зняць «копіі» мозгу і пабудаваць яго матэматычную мадэль. Ён называўся… сістэма «Каспара-Карпава». Дзіўна тое, што аповесць была апублікавана ў 1962 годзе, калі шахматысту Анатолю Карпаву было толькі 11 гадоў, а Гары Каспараў наогул яшчэ не нарадзіўся.

**Легальныя лахатроны.**

Аўтары «Аскетскай Расіі» Арцём Сенатараў і Алег Логвінаў у сваёй кнізе апісалі звычайныя аўтаматы папаўнення рахунку мабільных тэлефонаў, якія прапанавалі арыгінальную паслугу. Пасля занясення сродкаў на экране прылады з'яўлялася прапанова згуляць у гульню «цот-лішка». У выпадку выйгрышу занесеная сума падвойвалася, пройгрыш прыводзіў да страты ўсіх грошай. Рызыкоўныя гульцы «спускалі» ўсе грошы. Ідэя «ўкарэнення» такіх аўтаматаў абмяркоўвалася ў рэчаіснасці, але праз заканадаўчае абмежаванне ігральнага бізнэсу ў іх краіне пакуль не прыжылася.


Адрас электроннай пошты: litaraturnaja.bielarus@gmail.com
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах: kamunikat.org і novychas.online.